Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

**Літаратура і мастацтва**

ISSN 0024-4686

№ 34 (4937) 25 жніўня 2017 г.





















# КРАЙ ФАНТАСТЫЧНЫХ АПАВЯДАННЯЎ

## Паданні і вобразы фестывалю міфалогіі

**Розныя нашы гарады, мястэчкі, вёскі маглі б мець такі фестываль, дзе фантастычныя істоты станавіліся б рэальнымі праваднікамі ў далёкае мінулае, а подзвігі легендарных герояў знайшлі б адлюстраванне ў сучаснасці — у песнях і аповедах. Лепелю пашчасціла: тут гэта робяць усім горадам. Ды яшчэ запрашаюць іншых — «У госці да Лепельскага Цмока».**



*Удзельніцы дзіцячага ўзорнага фальклорнага гурта «Калыханка» з пасёлка Міханавічы Мінскага раёна пад кіраўніцтвам Ларысы Рыжковай.*



*Керамічная фігурка цмока, выраблена майстрам з Бешанковічаў Алесяй Аўчыннікавай.*

На фестывалі міфалогіі ў Лепелі адзін галоўны герой — добры цмок. Ён хаваецца на беразе возера: нібыта ратуючыся ад самоты, выйшаў на бераг ды так і застыў тут у выглядзе скульптурнай выявы (работа Льва Аганава). Людзі прынялі, палюбілі і ўславілі таго, у каго немагчыма было б нават паверыць. Але пасля Уладзіміра Караткевіча, які, здаецца, бачыў таго цмока (ды не толькі яго, але і іншых нерэальных істот), ужо не здзіўляемся. Такая ў нас цуда-краіна! Ва ўсім дзіўным, незразумелым, нават небяспечным умеем убачыць дабро. Цмокі-пачвары настолькі захапляюць, што натхняюць пісьменнікаў і мастакоў, становяцца сімваламі, надзяляючы людзей сваімі звышздольнасцямі; з моцнымі мядзведзямі здаўна навучыліся дамаўляцца на «Камаедзіцу»; ведаем, што магчымасць адчуць у сабе спрытнасць воўка дапаможа ўратаваць жыццё ў самай безнадзейнай сітуацыі; а ў чароўных русалак хочацца павучыцца прывабнасці і нават па-сяброўску паспяваць з імі ды павадзіць карагоды на заходзе сонца...

І карагод, і «Спеўны ход», і выступленні этнагуртоў «Палац», «Рокаш», «Патрыцыя-Гарэза», «Варган» ды іншых нагадалі ў Лепелі пра багацце народнай культуры, якая захоўвае вобраз спрадвечнай Беларусі, дзе фантастычнае — адбітак рэальнасці. Той, якая магла быць насамрэч. І той, што ёсць: найперш гэта праекцыя свядомасці цяперашніх людзей, іх жадання разумець лепш сябе і сваю радзіму. Таму народныя майстры і рамеснікі едуць на кірмаш са сваім скарбам, музыкі ды артысты пашыраюць кола тых, хто асвойвае традыцыйныя танцы ды вучыць песні падчас майстар-класаў. І таму зварот да фальклору ды этнатрадыцый — добрая падказка для любога фестывалю, які імкнецца займець асаблівы імідж.

*Фота Анатоля Клешчука.*



*Майстар па пляценні кошыкаў, кашалёў і карзінак з бяросты і хваёвай дранкі з Полацка Пётра Ціценка.*

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з юбілеем народнага артыста РСФСР Андрэя Канчалоўскага. «Вамі створана мноства яркіх, запамінальных работ у кінематографе і тэатральным мастацтве. Ваша плённая дзейнасць заваявала любоў глядацкай аўдыторыі і прызнанне прафесійнай грамадскасці не толькі ў Расіі, але і за яе межамі», — гаворыцца ў віншаванні. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што ў Беларусі Андрэя Канчалоўскага ведаюць і цэняць як майстра, які глыбока захоплены любімай справай, чалавека, які нястомна імкнецца да заваявання новых творчых вяршынь.

✔ Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з юбілеем народную артыстку РСФСР Ірыну Скобцаву. «Дзякуючы выключнаму акцёрскаму майстэрству, непаўторнаму творчаму стылю, уменню глыбока і тонка разумець характары сваіх персанажаў, вы заваявалі шчырую любоў і прызнанне многіх пакаленняў гледачоў», — адзначыў кіраўнік дзяржавы і падкрэсліў, што выразныя і вытанчаныя вобразы, створаныя актрысай у кіно і на тэатральных падмостках, увайшлі ў скарбніцу савецкага і расійскага мастацтва.

✔ Прэзідэнт Беларусі выказаў спачуванні родным, блізкім і калегам народнай артысткі Расіі Веры Глаголевай у сувязі з яе смерцю. «Вера Віталеўна, якая валодала непаўторнай манерай ігры і тонкім успрыманнем характараў персанажаў, стварыла на экране і ў тэатры дзясяткі запамінальных роляў, дзякуючы якім здабыла ўсенародную любоў і прызнанне прафесіяналаў», — гаворыцца ў спачуванні.

✔ На выстаўцы «Мінску 950...», якая адкрылася ў Гасцёўні Уладзіслава Галубка, прапануюцца экспанаты з прыватных калекцый. У экспазіцыі — прадметы XIX — XXI стст., прадстаўленыя Беларускім рэспубліканскім грамадскім аб'яднаннем калекцыянераў і Нацыянальным гістарычным музеем. Гэта памятныя манеты, медалі і банкноты, прысвечаныя Мінску; памятныя медалі, прысвечаныя прадпрыемствам, навучальным установам і іншым грамадскім установам сталіцы; прадукцыя Мінскага фарфоравага завода; паштоўкі і фатаграфіі дарэвалюцыйнага ды пасляваеннага горада і многае інш.

✔ Заўтра каля шлюза «Дамброўка» пачнецца яркі і відовішчны фестываль дружбы «Аўгустоўскі канал у культуры трох народаў — Беларусі, Польшчы і Літвы». Асноўныя мэты фэсту — падтрымка і развіццё нацыянальных культур, умацаванне і пашырэнне міжнародных культурных сувязей, развіццё турызму. У гэты ж дзень на канале пройдзе і самабытны рэгіянальны фэст традыцыйнай культуры «Скарбы Гродзеншчыны», удзельнікі якога пацешаць прысутных аўтэнтычнымі спевамі, музыкай і гумарам.

✔ У Мінску ў Верхнім горадзе заўтра пройдзе заключны летні канцэрт пад адкрытым небам «Класіка каля ратушы з velcom». З праграмай «Ие вялікасць класіка» выступіць Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Аляксандра Анісімава. У выкананні аркестра і салістаў прагучаць шэдэўры сусветнай класічнай музыкі, даступныя, дзякуючы сваёй папулярнасці, гледачам з малым філарманічным стажам і здольныя падарыць хвіліны духоўнай асалоды сапраўдным знаўцам высокага мастацтва.

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# ПОВЯЗІ СЯБРОЎСТВА

**Саюз пісьменнікаў Беларусі злучае творчых і цікавых людзей незалежна ад узросту, заўсёды імкнецца да дыялогу з моладдзю. Чарговым доказам такой стратэгіі развіцця беларускага пісьменства стаў Міжрэгіянальны форум маладых пісьменнікаў Мінскай і Гомельскай абласцей. У размове з маладымі талентамі на пленарным пасяджэнні ўзялі ўдзел першы намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Алена Стэльмах, намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Анатоль Крэйдзіч, старшыня Мінскага абласнога аддзялення СПБ Святлана Быкава, кіраўнік абласнога народнага клуба кампазітараў і паэтаў «Жывіца» Ірына Карнавухава ды іншыя.**

— Мы ўжо сталыя людзі са сваім поглядам на жыццё, але рэчаіснасць мяняецца, мяняюцца ўмовы чалавечага існавання, і менавіта моладзь можа ўлавіць тое няўлоўнае, што адбываецца ў нашым свеце і грамадстве, — заўважыла старшыня Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Святлана Быкава. — Новае пісьменніцкае пакаленне тонка адчувае змену, глыбока ўспрымае жыццё.

Маладыя літаратары пазнаёміліся з дзейнасцю аддзялення, з жыццём Саюза пісьменнікаў Беларусі. Першы дзень форуму пачаўся з заняткаў у вочназавочнай школе «Са-творчасць» пры Мінскім абласным аддзяленні СПБ, тэмай якога было стварэнне песні. Святочны канцэрт пасля пленарнага пасяджэння дазволіў весела бавіць час, пачуць вершаваныя, празаічныя і музычныя творы ў выкананні маладых творцаў. Цікавай атрымалася і культурна-забаўляльная праграма, якую распрацавалі для гасцей форуму: моладзь наведала літаратурныя музеі Янкі Купалы і Якуба Коласа, завітала ў духоўнае апірышча Мінска — Свята-Елісавецінскі манастыр. Апошнім прыпынкам у насычанай праграме стала рэпетыцыя абласнога народнага клуба кампазітараў і паэтаў «Жывіца», дзе ўдзельнікі мерапрыемства выказалі спадзяванні на далейшае паспяховае развіццё творчых сувязей паміж рэгіёнамі.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

## Вернісаж

# Шляхам арыгамі

Выстаўка арыгамі «Шлях да саторы» пачала працаваць у мастацкай галерэі «Універсітэт культуры». Саторы — гэта адчуванне прасвятлення, унутранае персанальнае перажыванне досведу спасціжэння сапраўднай прыроды, чалавека. Кажуць, што атрымаць такі значны духоўны досвед можна толькі на сутыкненні з будзённасцю, праз сувязь з побытавымі рэчамі. Мастацтва арыгамі — спосаб спазнаць стан саторы.



Фота Кацярыны Аляксеевай.

Арыгамі Дзмітрыя Лысюка.

На выстаўцы «Шлях да саторы» прадстаўленыя работы Дзмітрыя Лысюка — майстра арыгамі, двухразовага пераможцы Міжнароднай алімпіяды па арыгамі (у 2011 і 2015 гг.). У Беларусі амаль няма іншых творцаў у гэтым кірунку, але экспазіцыя паказвае: арыгамі — цікавае для беларусаў мастацтва. У галерэі сабраныя работы майстра, створаныя ў перыяд з 2010 года да цяперашняга часу. Акрамя класічнага арыгамі, творчасць Дзмітрыя Лысюка ахоплівае мазаікі, кусудамы, а таксама мастацкія фатаграфіі з выявамі яго работ.

— У дзяцінстве ўсе мы рабілі бомбачкі, самалёцікі — гэта пачаткоўы, прымітыўны ўзровень арыгамі, — распавёў Дзмітрый Лысюк. — Займацца арыгамі прафесійна пачаў амаль выпадкова. Аднойчы ўбачыў прыгожыя вырабы, а потым падумаў: чаму б не паспрабаваць? Знайшоў у інтэрнэце некалькі дыяграм (яны ёсць у вольным доступе), відэаўрокі: цяпер усяму можна навучыцца самастойна, было б жаданне.

Ганаровым госцем выстаўкі стаў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Японіі ў Беларусі Хірокі Такунага. Спадар Такунага заўважыў, што ўпершыню наведвае падобную імпрэзу ў Мінску і шчыра ўражаны надзвычай высокім узроўнем майстэрства аўтара работ. Акрамя ўласна распрацаваных арыгамі, Дзмітрый Лысюк прадэманстраваў вырабы, выкананыя па мадэлях аматараў папяровага мастацтва з розных краін. Такім чынам, госці экспазіцыі пазнаёміліся з сусветнымі тэндэнцыямі.

Аматары японскага мастацтва могуць ацаніць майстэрства беларускага арыгамі ў галерэі «Універсітэт культуры» да 31 жніўня.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

## Набыткі

# АДЗНАКА — ЗА ЎВАГУ ДА ГІСТОРЫІ

Студыі гістарычных фільмаў («Майстэрня Уладзіміра Бокуна») атрымала прыз V Кінафестывалю «Спатканні з гісторыяй» у польскім горадзе Замосць. Беларускі фільм «Бітва за Кобрын» саступіў польскай стужцы і заняў другое месца на фестывалі, у конкурснай праграме якога сёлета было 15 фільмаў.

«Узнагарода фестывалю ў Замосце — гэта прызнанне таго, што ўзровень фільмаў нашай студыі не саступае ўзроўню польскага кіно, а польская дакументалістыка традыцыйна лічыцца адной з лепшых у Еўропе», — адзначыў Уладзімір Бокун, прадзюсар фільма, дырэктар Студыі гістарычных фільмаў.

Фільм «Бітва за Кобрын. Закладнікі сакрэтнага пакта» выйшаў у эфір тэлеканала АНТ у чэрвені 2016 года ў рамках праекта «Зваротны адлік». У 2008 годзе падчас пошукавых прац пад Кобрынам салдаты 52-га асобнага спецыялізаванага пошукавага батальёна Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь знайшлі невядомую брацкую магілу часоў другой сусветнай вайны. Аказалася, што 13 чалавек, чые астанкі былі знойдзены, — салдаты не савецкія і нават не нямецкія вайсковых падраздзяленняў, а Войска Польскага. Чаму яны апынуліся пад Кобрынам?

У цэнтры гэтай гісторыі — лёс капрала Войска Польскага Эварыста Зайкоўскага, які ў 28 гадоў пакінуў жонку і маленькую дачку і адправіўся абараняць Радзіму. Разам з ім у складзе 83-га палка палескіх стралкоў Войска Польскага ў верасні 1939 года з нацыстамі ваявала нямала нашых землякоў — выхадцаў з Заходняй Беларусі, якая ўваходзіла ў той час у склад Польшчы. Для тысяч беларусаў першыя залпы вайны прагучалі не ў чэрвені 41-га, а ў верасні 39-га…

Творчая група праекта «Зваротны адлік» — рэжысёры Уладзімір Луцкі, Ірына Васільева і аўтары сцэнарыя Ігар Мельнікаў, Кацярына Паршыкава — правяла вялікую пошукавую работу: у архівах, сустрэлася з гісторыкамі і археолагамі. Удалося знайсці сям'ю капрала Эварыста Зайкоўскага, якая сёння жыве ў Беластоку.

**Марыя АСІПЕНКА**

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**27 жніўня** — *на творчую сустрэчу з паэтам Міхасём Пазняковым, якая адбудзецца ў мікраРаёне Сосны (вул. Паўлоўскага, 60). Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**1 верасня** — *у Дом літаратара на літаратурную імпрэзу, прысвечаную Дню беларускага пісьменства, з удзелам пісьменнікаў. Пачатак а 10-й гадзіне.*

**1 верасня** — *на творчую сустрэчу з дзіцячай пісьменніцай Вольгай Любашынай «У цудоўны свет ведаў — праз бібліятэку» ў публічную бібліятэку № 5. Пачатак у 10.30.*

**1 верасня** — *на сустрэчу з пісьменнікам Анатолем Зэкавым «Як да нас прыйшла кніга» ў публічную бібліятэку № 8 імя Максіма Багдановіча. Пачатак у 10.30.*

**1 верасня** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Уладзімірам Мазго, прысвечаную Дню ведаў, у СШ № 116. Пачатак а 9-й гадзіне.*

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**3 верасня** — *на прэзентацыю літаратурнага альманаха «Дзвіна» з удзелам пісьменнікаў Віцебшчыны на літаратурную пляцоўку «Слова пісьменніку» ў Полацк. Пачатак а 10-й гадзіне.*

# Знакавы горад

## У гонар калыскі беларускай дзяржаўнасці

**Самы старажытны горад Беларусі Полацк (сёлета яму споўніцца 1155 гадоў) трэці раз стане сталіцай Дня беларускага пісьменства. Менавіта тут адсвяткуюць і 500-годдзе беларускага кнігадрукавання: Францыск Скарына — знакаміты сын полацкай зямлі.**



*Чыгуначны вакзал.*

Падрыхтоўку да святкавання пачалі яшчэ ў маі. Адказныя асобы падкрэслівалі, што для ўсёй вобласці вялікія гонар і адказнасць годна падрыхтавацца да святкавання. Адказваючы на пытанні журналістаў, старшыня Віцебскага аблвыканкама Мікалай Шарснёў выказаў упэўненасць: у выніку таго, што будзе зроблена, Полацк «заззяе новымі фарбамі».

Задоўга да свята былі вызначаны прыярытэтныя аб'екты для рамонту, абнаўлення будынкаў. Сярод іх, у прыватнасці, адзін з сімвалаў Беларусі — Сафійскі сабор, дзе плануюць завяршыць работы па рэстаўрацыі. Сёлета павінны былі замяніць усе аконныя блокі, завяршыць усталяванне вентыляцыі, абнавіць падлогу. І ў выніку падчас свята гэты ўнікальны помнік архітэктуры можна будзе ўбачыць ва ўсёй непаўторнай велічы і прыгажосці.

Падчас святкавання ля храма плануецца адкрыць памятны бронзавы знак «Полацк — калыска беларускай дзяржаўнасці». Менавіта там — на пляцоўцы каля заходняй сцяны старажытнай Сафіі (дзе быў раней галоўны ўваход у храм) — палачане правodзілі вечавыя сходы. Вышыня арт-аб'екта каля 5,5 метра, ён уяўляе сабой шчыты з выявамі суайчыннікаў мінулага, вядомых сваёй дзейнасцю далёка за межамі краіны. Гэта твор мінскага скульптара Уладзіміра Піпіна. Цырымонія ганаровага адкрыцця памятнага знака запланавана на 2 верасня.

Нягледзячы на вялікі фронт работ, у горадзе ўсе службы працуюць спакойна, рыхтуючыся да прыёму гасцей. Старанна працуюць і дарожнікі. Яны, напрыклад, пашыраюць уязныя шляхі з боку Расіі... Дарэчы, цікава, што ў Полацку раней пры падтрымцы Еўрапейскага саюза ажыццявілі праект для веласіпедыстаў: на некалькіх кіламетрах ездзіць дазваляюць і не па тратуарах, а спецыяльныя паўсферы абараняюць вадзіцеляў самага экалагічнага віду транспарту ад верагоднасці сутыкнуцца з аўто.



*На вуліцах Полацка.*

На «пасажырскіх варотах» горада — вакзалах — таксама наводзяць прыгажосць. На чыгуначным вакзале цяпер ёсць бясплатны *Wi-Fi*. Аўтавакзал, што знаходзіцца па суседстве, таксама атрымлівае другое жыццё. Раней у ім багата было, як кажуць, «ад савецкай спадчыны». Цяпер будынак звонку і ўнутры адпавядае патрабаванням часу.

У аблвыканкаме падкрэслілі, што вядзецца вялікая работа па падрыхтоўцы да святкавання як самога горада, так і раёна. У Полацку будаўнікі і рамонтнікі працавалі амаль на 350 аб'ектах. Вялікі аб'ём работ здолелі ажыццявіць дзякуючы падтрымцы рэспубліканскіх ведамстваў.

Сярод асабліва важных аб'ектаў сёлета — Музей беларускага кнігадрукавання. Ён набывае выгляд, адпаведны святу: глянец на фасадзе, прыводзяць у належны стан дах... Адначасова вядуцца работы па абнаўленні экспазіцыі, асабліва той часткі, якая прысвечана першадрукару. Прадугледжана замена светлавога абсталявання (на святлодыёды), запланавана ўсталяванне інфакіёска, у якім наведвальнікі змогуць віртуальна пагартаць выданні Скарыны.

Новае светлавое і гукавое абсталяванне ўсталявалі ў гарадскім Палацы культуры. Там таксама адрамантавалі дах, «асвяжылі» фасад. У гарвыканкаме заінтрыгавалі тым, што знакавыя аб'екты можна будзе ўбачыць і ў паменшаным памеры. Паводле слоў намесніка старшыні Полацкага райвыканкама Аляксандра Міхалевіча, пад адкрытым небам адбудзецца прэзентацыя макетаў храмаў і іншых аб'ектаў у маштабе 1 да 30. Іх зрабілі мясцовыя школьнікі пад кіраўніцтвам настаўнікаў...

Свята завершыцца, а ўпрыгожаныя, адрамантаваныя вуліцы і будынкі яшчэ доўгі час будуць радаваць вока. Полацк — музей пад адкрытым небам — стане яшчэ больш прывабным для турыстаў і больш утульным для пражывання.

**Аляксандр ПУКШАНСКІ**

ЛіМ КАЛЯНДАР

**21 жніўня** — 110 гадоў з дня нараджэння Аляксея Клумава (1907 — 1944), беларускага кампазітара, піяніста, педагога, заслужанага артыста БССР.

**22 жніўня** — 100 гадоў з дня нараджэння Георгія Шчарбакова (1917 — 1989), беларускага рэжысёра, акцёра, педагога, народнага артыста БССР.

**23 жніўня** — 100 гадоў з дня нараджэння Пімена Панчанкі (1917 — 1995), народнага паэта Беларусі.

**23 жніўня** 80 гадоў споўнілася Людміле Мельнікавай, беларускаму літаратуразнаўцу.

**25 жніўня** — 85 гадоў з дня нараджэння Петруся Макаля (1932 — 1996), беларускага паэта, драматурга, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь.

**27 жніўня** — 95 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Махнача (1922 — 2001), беларускага драматурга, празаіка, публіцыста, заслужанага работніка культуры Беларусі.

**27 жніўня** 70-годдзе адзначыць Уладзімір Хадаровіч, беларускі жывапісец.

### Дайджэст

• У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры 23 жніўня адбылося адкрыццё выстаўкі «Пімен Панчанка. Кніга вандраванняў і любові…» і літаратурна-дакументальнай часовай экспазіцыі «Янка Брыль. З людзьмі і сам-насам», прысвечаных 100-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі і народнага пісьменніка Беларусі Янкі Брыля. Урачыстае адкрыццё дзвюх экспазіцый у адзін дзень невыпадковае: даследчыкі адзначаюць пэўнае падабенства лёсаў пісьменнікаў, якія нарадзіліся ў жніўні 1917 года за межамі Беларусі. На экспазіцыях будуць прадстаўлены матэрыялы з фондаў музея (фатаграфіі, рукапісы, лісты, кнігі), прадметы з асабістых архіваў Пімена Панчанкі і Янкі Брыля.

• Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года будзе экспанавацца на выстаўцы «Нацыя кніг. Статут 1588 і старадрукаваныя кнігі», прысвечанай 500-годдзю беларускага кнігадрукавання і пяцігоддзю вяртання аднаго з асобнікаў знакамітага Статута ВКЛ, паведамляе БелТА. Кніга была выдадзена на старабеларускай мове ў друкарні Мамонічаў у Вільні. Пershага верасня папярэднік еўрапейскіх канстытуцый разам з рэдкімі выданнямі Магілёўскай кансістарскай друкарні XVIII стагоддзя з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, а таксама паменшанай копіяй друкарскага станка часоў Скарыны з'явіцца ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры. Экспазіцыя «Нацыя кніг. Статут 1588 і старадрукаваныя кнігі» прадставіць старадаўнія і рэдкія выданні з друкарняў Полацка, Нясвіжа, Гродна, Магілёва, Вільні.

• У польскім горадзе Вроцлаве прайшла спецыяльная сесія Сусветнага бібліятэчнага і інфармацыйнага кангрэса, прысвечаная 500-годдзю беларускага кнігадрукавання. У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адзначаюць, што гэта, як і ўключэнне юбілею беларускага кнігадрукавання ў Каляндар памятных дат ЮНЕСКА, пацвярджае значнасць спадчыны Францыска Скарыны для беларускай, усходнеславянскай і еўрапейскай культуры. Падчас сесіі дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі прэзентаваў міжнародны навуковы і выдавецкі праект па факсімільным узнаўленні кніжнай спадчыны Францыска Скарыны, а таксама распавёў пра гісторыю рэалізацыі праекта.

• Тэлеканал «Беларусь 3» абвясціў верасень месяцам беларускага пісьменства, паведамілі ў прэс-службе Белтэлерадыёкампаніі. У верасні канал плануе засяродзіць увагу на беларускай кнізе і пісьменніках. Гледачоў чакаюць прамыя трансляцыі з Полацка, сталіцы пісьменства 2017 года, сустрэчы з сучаснымі аўтарамі і тэматычныя выпускі праграм пра класікаў беларускай літаратуры. Акрамя таго, у эфіры з'явяцца мастацкія фільмы па матывах твораў Янкі Маўра, Івана Мележа, Уладзіміра Караткевіча, Якуба Коласа, Івана Шамякіна ды іншых. 2 і 3 верасня гледачам прадставяць гісторыка-біяграфічную стужку «Я, Францыск Скарына», а 3 верасня пакажуць прэм'еру дакументальнага фільма «Першадрук», прысвечанага 500-годдзю з дня выдання Францыскам Скарынам кнігі «Псалтыр».

• Дзеючая копія друкарскага станка папоўніць экспазіцыю Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі. Гэта дакладная копія друкарскага станка Гутэнберга, з'яўленне якога змяніла свет і свядомасць людзей, адкрыла ім шлях да самаўдасканалення і самаадукацыі. Таксама ў музеі будзе прадстаўлены ўнікальны высокатэхналагічны макет Бібліі Францыска Скарыны, створаны першадрукаром у Празе ў 1517 годзе. Старонкі кнігі пры дапамозе сучасных тэхналогій можна прачытаць, гартаючы іх рухамі рук у паветры.


Фота Анатоля Клешчука.

# СПРАВА СКАРЫНЫ. ПРАЦЯГ

**Пра нашага першадрукара далёка не ўсё сказана. Шмат што застанецца для даследчыкаў яшчэ на дзесяцігоддзі. Але словы, якія гучаць напярэдадні вераснёвых свят — Дня ведаў і Дня беларускага пісьменства, — маюць асаблівую энергетыку: у іх закладзены працяг яго справы. Бо іх гавораць сучасныя выдаўцы і творцы, пісьменнікі і чытачы. І не толькі з Беларусі. 500-годдзе беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання падтрымана на сусветным узроўні: гэтую дату сёлета адзначае ЮНЕСКА.**
**У межах святкавання ў Полацку адбудзецца Міжнародны круглы стол беларускіх і замежных літаратараў «Дыпламатыя слова: Францыск Скарына ў сусветнай гуманітарнай прасторы». Але ўжо сёння мы знаёмім нашых чытачоў з думкамі даследчыкаў і літаратараў, сяброў Беларусі, якія ў наш час працягваюць справу Скарыны праз актыўныя творчыя кантакты прадстаўнікоў розных культур.**

**Анатоль ЗЭКАЎ**

## Скарынава слова

*Скарынавай душою*
*узлашчанае слова*
*крыляла над мяжою,*
*бруілася вяснова.*

*З ім сеялі і жалі,*
*грыбы збіралі ў лесе.*
*Яно — у песнях жалю,*
*яно — ў жартоўных песнях.*

*У ім — і плач хаўтурны,*
*у ім — і шэпт таемны,*
*у ім — і гнеў, і буры*
*пажарышчаў ваенных.*

*Ўзлятала над планетай*
*і клікала дадому...*
*Не знішчыць слова гэта,*
*не вытруціць нікому.*

*З Радзімаю адзінай*
*жыве яно асновай.*
*Пакуль жыве Радзіма —*
*датуль жыве і слова.*

## Беларусы

*Будны, Гусоўскі, Скарына,*
*Полацкі, Колас, Купала.*
*Кожны з іх —*
*Гонар Айчыны,*
*Сіла яе і трываласць.*

*Мы і вядомыя свету,*
*Пэўна, па той жа прычыне,*
*Што друкары і паэты*
*Ёсць у любімай Айчыне.*

# Ён паказвае нашу злучанасць з рознымі народамі



Пра тое, як Францыск Скарына працягвае быць карысным радзіме, разважае намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі старшыня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Алесь Суша:

**— Сёлета святкаванне 500-годдзя беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання адзначана ЮНЕСКА. Чаму ў свеце з піетэтам паставіліся да асобы, якая, у прынцыпе, не адкрыла новую тэхналогію. Скарына ўсё ж выкарыстоўваў чужое вынаходства, рабіў тое, што рабілі да яго ўжо шмат дзе? Ці тое, што яго не забываюць, — гэта заслуга беларусаў сёння?..**

— З аднаго боку, ёсць павага да самой асобы, таму што Францыска Скарыну ёсць за што паважаць. Ён зрабіў важныя крокі для інтэграцыі беларускага і наогул беларуска-літоўска-украінскага рэгіёна (колішняга Вялікага Княства Літоўскага) у агульнаеўрапейскую культурную палітыку, вельмі шмат зрабіў для трансляцыі сусветных агульнахрысціянскіх каштоўнасцей у нашым рэгіёне. Самае важнае: ён, з аднаго боку, адкрыў вочы беларусам на ўвесь свет, а з другога — свету адкрыў вочы на нашу зямлю. Адкрыў нам магчымасць сказаць сваё сапраўднае друкаванае слова і сімвалічнае слова пра саміх сябе. Ён не прыдумаў новую тэхналогію, ён не прыдумаў, як перакладаць кнігі ці Біблію, ён не прыдумаў, як рабіць батанічныя сады ці нешта іншае. Але ён зрабіў, як мне падаецца, значна больш: змяніў непазнавальна ўсход Еўропы, уключыў вялікія масы людзей, якія пражывалі на ўсходнееўрапейскіх землях, у агульнасусветны культурны арэал, дзякуючы чаму агульнасусветная культура ўзбагацілася новымі ідэямі, досведам… Шэкспір таксама не першым у свеце прыдумаў пісаць вершы, але зрабіў гэта таленавіта. Тое ж мы кажам пра Скарыну.

З іншага боку, можна сказаць: тое, што сёння адбываецца з ушанаваннем Скарыны па ўсім свеце, — гэта вынік працы беларусаў апошняга часу, вынік бяспыннага ліставання, шматлікіх перамоў з калегамі і партнёрамі, супрацоўніцтва з нацыянальнымі бібліятэкамі іншых краін, вынік працы беларускіх дыпламатаў за мяжой, вынік працы міністэрстваў культуры і інфармацыі, якія разам і паасобку шмат робяць для пазіцыянавання вобраза Беларусі праз дасягненні нацыянальнай культуры і кнігадрукавання.

Яшчэ з 2012 года мы ў сваёй краіне вельмі гучна сталі казаць пра тое, што надыходзіць юбілей. З таго часу пачалі шукаць партнёраў на асобныя праекты, як тое ж факсімільнае ўзнаўленне кніжнай спадчыны Францыска Скарыны. У той жа час пачалі складаць агульнарэспубліканскую праграму мерапрыемстваў, дасылаць прапановы нашым партнёрам, каб скаардынаваць свае намаганні. Пачалі думаць пра нетрадыцыйныя праекты, якія можна было б рэалізаваць у Беларусі і за мяжой, пра новыя формы — варыянты працы ў электронным асяроддзі, віртуальныя праекты, экспазіцыі, мерапрыемствы для дзіцячай аўдыторыі. Нас пачалі бачыць усюды ў свеце, намі пачалі цікавіцца.

Праца з папулярызацыяй спадчыны Скарыны і яго вобраза як у Беларусі, так і за яе межамі павінна працягвацца. Тут самае важнае (сёння ўжо адбываецца) — пэўная трансфармацыя людской свядомасці, нават культурная рэвалюцыя: беларусы пачынаюць ганарыцца, што яны беларусы. Беларусы ўсё больш вывучаюць сваю мінуўшчыну, даследуюць сучаснасць і дбаюць пра будучыню са свайго пункту гледжання. Не з іншага, як гэта раней бывала, а са сваёй пазіцыі, гледзячы на сябе, як і ўсе іншыя народы свету, як на цэнтр адліку. Калі мы кажам пра пазіцыянаванне сябе ў свеце, патрэбны апорныя моманты, якім і з'яўляецца Францыск Скарына, які паказвае нашу злучанасць з рознымі народамі, з рознымі культурамі, паказвае пэўнае падабенства ў кірунку развіцця і нашу адметнасць, пэўны ўзровень, які дазваляе нам ганарыцца і стаяць між іншымі роўнавысока.

Дыялог праз кнігу

# …З Сусветам

## На мове паэзіі: дзеля ўдасканалення

Сёння чытач мае магчымасць спрычыніцца да мастацкіх адкрыццяў першадрукара праз пераклады іх на сучасную беларускую мову, ды яшчэ ў паэтычнай форме. Гэта зрабіў паэт Алесь Разанаў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. «Мастацкая літаратура» пры фінансавай падтрымцы дзяржавы ажыццявіла выданне і прадставіла кнігу, якая выклікала цікавасць і нават абмеркаванне таго, што зроблена: паэтычнае перастварэнне прадмоў Скарына на сучасную беларускую мову стала дыялогам паміж эпохамі і пакаленнямі. Але работа нагадала пра галоўны дыялог, што вядзе чалавецтва на працягу свайго існавання: з Богам ці наогул з Сусветам.

У свой час Францыск Скарына быў наватарам у мастацкім прачытанні Біблії, імкнуўся найлепш і найярчэй данесці яе сэнс да людзей, сваіх землякоў. Так і ў гэтай кнізе мы разважаем пра тое, што: «Пісанне, натхнёнае Богам, / карыснае ўсякаму чалавеку: / для навучання / і разважання, / для ачышчэння / і высвядчэння, / для выпраўлення / і для здзяйснення праўды, / каб дасканалы быў чалавек / і здатны / да ўсякае добрае справы…».

Такога Скарыну таксама хочуць ведаць. Кніга выклікала цікавасць на пачатку года: як яна створана і дзеля чаго? Пра гэта разважалі ўдзельнікі круглага стала ў рэдакцыі «ЛіМа» (матэрыял «Скарына. Пункт адліку і вяршыня» надрукаваны ў №13 за 31 сакавіка 2017 г. ) Але тая дыскусія атрымала працяг, да яе далучыліся еўрапейскія даследчыкі і перакладчыкі на беларускую мову.

**Томас Вайлер, перакладчык (Германія):**

— Да паэтычных перастварэнняў Алеся Разанава я паставіўся з цікавасцю. Я перакладаю літаратуру з беларускай, рускай і польскай на нямецкую мову. Дагэтуль я звяртаўся амаль выключна да жывых аўтараў, да маіх сучаснікаў, пераважна да пісьменнікаў майго пакалення, з якімі ў нас сумесны кантэкст. Мне лягчэй увайсці ў іх манеру пісання.

Аднак мой паважаны калега Норберт Рандаў, славіст і перакладчык, які ў 2003 годзе ў фондах Верхнелужыцкай навуковай бібліятэкі ў Гёрліцы знайшоў раней не вядомы асобнік пражскага выдання Бібліі Францыска Скарыны, займаў пазіцыю, што перакладаць трэба спачатку класіку, каб закласці фундамент. Асабіста мне да фундаментаў яшчэ далёка. Дарога да крыніц, да старажытнай літаратуры здаецца асабліва далёкай тым, хто не з'яўляецца носьбітам гэтай мовы. Я проста не адважыўся б дакрануцца да тэкстаў такой даўнасці, бо ведаю, што бракуе якраз кантэксту, што мне не абысціся без каментарыяў. Таму той дыялог Алеся Разанава з Францыскам Скарынам можа быць адкрыццём: ён дае мне (і, вядома, не толькі мне) доступ да гістарычных тэкстаў, да якіх мы звычайна не дакранаемся.

**Прафесар Ілма Ракуза, пісьменніца, літаратуразнаўца (Швейцарыя):**

— Скарына як асоба, без сумнення, цікавы сёння, але трэба зрабіць, каб яго больш ведалі. Таму, мне здаецца, карысна звяртацца да яго ў розных відах творчасці. Што да кнігі «Маем найбольшае самі» (якую я атрымала ад Алеся Разанава), то гэта смелы эксперымент, не кожны сучасны паэт здольны на такі




«пераклад». Спроба Алеся Разанава ўдалася: гэта цудоўная паэтычная работа, як уся яго творчасць. Я высока цаню паэзію і пераклады Разанава, шмат пра яго пісала. На Захадзе яго лічаць галоўным беларускім сучасным паэтам.

Калі кнігу абмяркоўваюць — значыць, яна жыве, а словы яе знаходзяць водгук у людзях. Галоўнае, што праз гэтую кнігу працягвае жыць тое слова, у якім Францыск Скарына бачыў шлях да ўдасканалення чалавека. Шлях на ўсе часы. І, магчыма, яшчэ не ўсе гэта ведаюць…

**Ларыса ЦІМОШЫК**

# АМБАСАДАР ПА КУЛЬТУРЫ З МІНУЛЫХ СТАГОДДЗЯЎ



**Чым цікавыя асобы, падобныя Францыску Скарыне? Ці можа 500-годдзе беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання быць аб'яднаўчым святам для прадстаўнікоў розных народаў, якія маюць сваю дзяржаўнасць і развіваюць нацыянальную культуру? Пісьменнік з Літвы Яронімас Лаўцюс лічыць:**

— Францыск Скарына для мяне як для літоўскага пісьменніка з'яўляецца амбасадарам па культуры і творчасці з мінулых стагоддзяў. Ён першым у Вільні пачаў друкаваць кнігі. Ён выдаваў кнігі ў Вільні на беларускай мове: хіба гэта не прыклад, што мы павінны сябраваць, тварыць, сваімі думкамі дапамагаць адно аднаму больш глыбока спазнаць гэты пераменлівы свет, натхняць нашых чытачоў на творчасць у сваім жыцці. Таму адзін з апошніх нумароў нашага часопіса «Зорачка» я цалкам прысвяціў творчым сувязям паміж літоўскімі і беларускімі пісьменнікамі.

Думаю, што пачуцці народаў не мяняюцца ад таго, што дзяржавы падзяліліся, жывуць па розных законах. Гэтыя законы мяняюцца ў асноўным у эканоміцы, а не ў культуры. Нацыянальная культура развівалася ў сваёй плыні як у мінулым, калі мы жылі ў адной дзяржаве, так яна развіваецца і цяпер. А дакранацца да культуры іншых народаў, тым больш блізкіх у геаграфічным і духоўным сэнсе, мае яшчэ больш важнае значэнне. Бо тварыць, каб ведаць, — гэта амаль адно і тое ж. Спазнаючы, мы развіваемся, а тыя, хто імкнецца аб'яднаць розныя культуры, заслугоўваюць прызнання і ўдзячнасці. Як і магнітная стрэлка не можа быць толькі паўночная або толькі паўднёвая, так і сусветная заходняя або ўсходняя культура не можа жыць асобна. Яны толькі разам ствараюць адно цэлае.

**Падрыхтавала Ларыса ЦІМОШЫК**

# ВЫБУДОЎВАЎ МАСТЫ ЎЗАЕМАРАЗУМЕННЯ

**Адна з удзельніц круглага стала, што пройдзе ў рамках Дня беларускага пісьменства, — Святлана АНАНЬЕВА, загадчыца аддзела аналітыкі і знешніх літаратурных сувязей Інстытута літаратуры і мастацтва імя М. О. Ауэзава (Алматы, Казахстан). Цікавасць да асобы Скарыны, на яе думку, тлумачыцца яго імкненнем выбудоўваць міжкультурны дыялог:**



— Асоба рэнесанснага тыпу Францыск Скарына — сімвал чалавека высокаадукаванага (доктар філасофіі і доктар медыцыны), цікавая перш за ўсё сваёй біяграфіяй і ініцыятывамі, накіраванымі на тое, каб яго сучаснікі палюбілі кнігу. Першадрукар, выдавец, перакладчык... Ён фактычна 500 гадоў таму выбудоўваў масты ўзаемаразумення і супрацоўніцтва. Знаходзячыся пастаянна ў дарозе (Полацк, Вільня, Кракаў, Падуя, Венецыя, Маскоўскае княства...), злучаў культурныя і навуковыя цэнтры Еўропы, знаёміў з беларускім словам жыхароў розных краін.

Вядомы Францыск Скарына і ў Казахстане. У красавіку гэтага года ў Алматы на IX Міжнароднай кніжнай і паліграфічнай выстаўцы «Па Вялікім шаўковым шляху — 2017» сярод экспанатаў стэнда «Кнігі Беларусі» вялікую цікавасць выклікала анталогія «Францыск Скарына на мовах народаў свету», у якую ўвайшлі пераклады класіка беларускай літаратуры на 64 мовы. Цёплыя і шчырыя словы аб супрацоўніцтве з беларускімі выдаўцамі сказаў галоўны рэдактар часопіса «Жулдыз» вядомы паэт Улугбек Есдаўлет. Дзякуючы яму, Францыск Скарына загучаў на казахскай мове. Складальнікі кнігі выказваюць падзяку Кайрату Бакбергенаву за арганізацыю паэтычных перакладаў на курдскую (Гасанэ Хаджысулейман), уйгурскую (Гульнар Аўтава), карэйскую (Кім Бён Хак) мовы.

**— Чым цікавая і прывабная культура сучаснай Беларусі?**

— Мінск сёння становіцца цэнтрам палітыкі міралюбнасці, добрых ініцыятыў, эканамічнага і гуманітарнага супрацоўніцтва. Культура сучаснай Беларусі прывабная сінтэзам традыцый этнакультуры і сучасных павеваў, адраджэннем гістарычнай памяці, сваёй разнастайнасцю, новымі імёнамі і адкрыццямі, знакавымі фестывалямі. Імпануе ініцыятыва міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лiлii Станіславаўны Ананіч аб вярнанні традыцыі: свая бібліятэка ў кожнай кватэры і кожнай хаце, бо кніга — крыніца ведаў і сімвал духоўнасці.

Міжнародны сімпозіум літаратараў «Пісьменнік і час» трэці год запар праводзіцца ў Мінску. Гэта сучасная пляцоўка для абмену думкамі па актуальных літаратурных і агульнацывілізацыйных пытаннях, яна служыць захаванню духоўна-маральных асноў развіцця грамадства і дзяржавы, раскрыццю каштоўнаснага патэнцыялу літаратуры ў сучасным шматнацыянальным і шматканфесійным социуме. Пытанні развіцця кніжнай культуры, вывучэння тэндэнцый выдавецкай палітыкі, ролі культуры і літаратуры ў мастацкай і эстэтычнай адукацыі асобы актуальныя для ўдзельнікаў штогадовай Мінскай Міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. У Беларусі не забываюць пра пераемнасць культур і літаратур, ладзяцца творчыя конкурсы для маладых мастакоў слова, міжнародныя тэатральныя і музычныя фестывалі. Гэта радуе і натхняе, таму што спрыяе пашырэнню і ўмацаванню агульнай гуманітарнай прасторы.

**— Сучасныя літаратурныя кантакты ўплываюць на развіццё нацыянальных літаратур?**

— Безумоўна, уплываюць. Пра гэта мы гаворым (і не адзін год) на міжнародных круглых сталах у рамках Дзён беларускага пісьменства, лейтматывам якіх выступае агульнасць нашых духоўных пошукаў. Вопыт міжнароднага культурнага супрацоўніцтва абагульняецца ў Мінску, Смаргоні, Быхаве, Заслаўі, Рагачове і іншых гарадах пастаянна, што дазваляе не толькі падводзіць вынікі, але і бачыць перспектывы. Новыя матэрыялы пра нацыянальныя літаратуры краін СНД і далёкага замежжа, проза і паэзія, прыкладныя творы размяшчаюцца на інтэрнэт-партале «Сугучча». Гэта ўнікальны праект, які рэалізуецца ў Беларусі. Ён накіраваны на аднаўленне страчаных літаратурных і творчых сувязей паміж нашымі краінамі, папулярызацыю сучаснай і класічнай літаратуры. Інфармацыя размяшчаецца аператыўна і ўяўляе вялікую цікавасць як для спецыялістаў-філолагаў, мастацтвазнаўцаў, перакладчыкаў, так і для шырокага кола чытачоў.

Я падзяляю пункт гледжання дырэктара Інстытута літаратуразнаўства імя Янкі Купалы НАН Беларусі Івана Саверчанкі: «літаратура не можа развівацца без літаратуразнаўства». Каторы год на старонках часопісаў «Полымя» і «Нёман» публікуюцца творы пісьменнікаў, паэтаў Казахстана Нурлана Аразаліна, Валерыя Міхайлава, Назікен Алпамысбаевай, Надзеі Чарновай, Амантая Ахетава, Галыма Жайлыбая, Любові Шашковай, Рымы Арцем'евай і іншых. Значным складнікам у часопісе «Нёман» на працягу апошніх гадоў сталі артыкулы казахстанскіх літаратуразнаўцаў аб сучасным сусветным літаратурным працэсе і рэцэнзіі на новыя кнігі.

І як вынік нашага супрацоўніцтва — новая калектыўная манаграфія Інстытута літаратуры і мастацтва імя М.О. Ауэзава «Сусветны літаратурны працэс XXI стагоддзя», якая адкрываецца раздзелам «Літаратура Беларусі» (аўтары А. Карлюкевіч і С. Ананьева).

**Падрыхтавала Ларыса ЦІМОШЫК**

*Дыялог праз кнігу*

# ...Са светам

## Беларусь — Кітай: погляд у будучыню

Гісторыя культурных узаемаадносін і развіццё дыпламатычных сувязей паміж краінамі — не заўсёды маюць адзін пункт адліку. Сувязі паміж мастакамі, пісьменнікамі, музыкантамі могуць развівацца стыхійна і трымацца на асабістых кантактах, знаёмствах, прыхільнасцях. Дыпламатычныя адносіны патрабуюць адпаведнага дзяржаўнага ўзроўню: стварэнне дыпламатычных місій, адкрыццё пасольстваў, падпісанне дамоўных дакументаў. Напрыклад, у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва мы адшукаем шмат дакументальных слядоў развіцця культурных адносін паміж Беларуссю і Кітаем пачынаючы з канца 1950-х гадоў: пераклады твораў Якуба Коласа, Максіма Танка, Аркадзя Куляшова на кітайскую мову, ліставанне паміж беларускімі і кітайскімі пісьменнікамі, шматлікія мастацкія работы славутага скульптара, народнага мастака БССР Сяргея Селіханава — партрэты, бюсты, фігуры кітайскіх літаратараў, мастакоў, рабочых і сялян, замалёўкі кітайскіх пейзажаў…

Аднак развіццё гэтых стасункаў адбывалася ў межах савецкай дзяржаўнай сістэмы, а вось пачатак дыпламатычных адносін паміж незалежнай Рэспублікай Беларусь і Кітайскай Народнай Рэспублікай вядзе адлік са студзеня 1992 года. Да 25-годдзя ўсталявання дыпламатычных адносін паміж краінамі ў пачатку 2017 года ў Выдавецкім доме «Звязда» выйшла кніга «Беларуска-кітайскія адносіны ва ўспамінах беларускіх паслоў» пад агульнай рэдакцыяй намесніка Прэм'ер-міністра Беларусі Анатоля Тозіка, які ў 2006 — 2010 гг. з'яўляўся Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у КНР. Аўтарамі выступілі Надзвычайныя і Паўнамоцныя Паслы, якія на працягу названага перыяду таксама прадстаўлялі інтарэсы Беларусі ў Кітайскай Народнай Рэспубліцы: Міхаіл Шаліма, Вячаслаў Кузняцоў, Уладзімір Русакевіч, Анатоль Харлап, Анатоль Тозік, Віктар Бура, Кірыл Руды. Выданне, багата аздобленае фотаздымкамі не толькі з фондаў Міністэрства замежных спраў, БелТА, але і з асабістых архіваў аўтараў, з'яўляецца своеасаблівай хронікай паступовага наладжвання дыпламатычных кантактаў паміж дзвюма краінамі. Матэрыялы кнігі, прадстаўленыя ў выглядзе ўспамінаў, а не сухіх дакументальна-статыстычных выкладак, выклікаюць сапраўдную цікавасць, таму, безумоўна, будуць актуальнымі для шырокага кола чытачоў — не толькі маладых дыпламатаў і даследчыкаў беларуска-кітайскіх сувязей, але і студэнтаў і выкладчыкаў факультэтаў міжнародных адносін, гістарычных і філалагічных факультэтаў.

Успаміны паслоў сягаюць далей за апісанне дыпламатычных місій і ўзнаўленне адпаведнага эканамічна-гістарычнага перыяду: гэта яшчэ і згадкі прыватнага характару пра асабістае ўспрыманне новага культурнага кантэксту: побыту, нораваў, звычаяў, менталітэту, прыродных умоў — усё гэта цалкам адрозніваецца ад беларускага ладу жыцця. Аднак дарога даўжынёй у 25 гадоў паспрыяла значнаму збліжэнню на розных узроўнях: фінансавым, навукова-тэхнічным, адукацыйным, гуманітарным. Міхаіл Шаліма, які з сакавіка 1993 па чэрвень 1995 года ўзначальваў Пасольства Рэспублікі Беларусь у Кітайскай Народнай Рэспубліцы ў якасці часовага паверанага, адзначаў, што на момант прыняцця рашэння аб




адкрыцці Пасольства Беларусі ў Кітаі ён выправіўся ў Пекін з мінімальным забеспячэннем, як у «нікуды». І вось адзіны аўтар, артыкул якога «Беларусь — Кітай: погляд у будучыню» мае адмысловую пазнаку «не ўспаміны», Кірыл Руды, які з ліпеня 2016 года з'яўляецца Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у КНР, адзначыў, што за 25 гадоў нашы дзяржавы прайшлі шлях, «для пераадолення якога іншым краінам спатрэбіліся дзесяцігоддзі і нават стагоддзі». Робячы асноўны акцэнт на развіцці супрацоўніцтва ў фінансава-эканамічнай і навуковай сферах, пасол адзначае станоўчую дынаміку і ў галінах адукацыі, культуры, турызму.

**Генадзь РЫЦКАЎ**



# ПАКІНУЦЬ НА ЗЯМЛІ СЛЕД

Прафесар, доктар гістарычных навук, заслужаны работнік культуры Расіі, галоўны рэдактар часопіса «Журналіст. Сацыяльныя камунікацыі» Аляксандр Чарняк паходзіць з Беларусі. Ён не забываецца на свае карані: юбілей беларускага кнігадрукавання з'яўляецца для яго знакавай датай.

— Сёлета ўсе мы адзначаем 500-годдзе беларускага кнігадрукавання, славім Францыска Скарыну — выбітнага чалавека, доктара медыцыны, мастака, філосафа, першадрукара. Чалавек нараджаецца для таго, каб пакінуць на зямлі след. Нарадзіць сына, пабудаваць жыллё, пасадзіць сад… У кожнага свой след, маленькі альбо вялікі. А ёсць людзі, чые сляды не сціраюцца стагоддзямі. Менавіта такі след пакінуў на зямлі Францыск Скарына, калі надрукаваў сваю першую кнігу. «Псалтыр» — адно з найпапулярнейшых выданняў свету, якое адыграла вялікую ролю не толькі для культуры Беларусі, але і для культуры Расіі, для іншых усходнеславянскіх краін. Дзякуючы Францыску Скарыне, звычайныя людзі атрымалі магчымасць прачытаць і зразумець слова Божае.

Жыццё чалавека трымаецца на досведзе нашых продкаў. Людзі нараджаюцца няўмелымі, і бацькі вучаць сваіх дзяцей хадзіць і размаўляць. Потым — школа, інстытут, усё больш і больш ведаў. А адкуль бяруцца гэтыя веды? Яны накоплены нашымі папярэднікамі. Такім чынам, Францыск Скарына надрукаваў не проста Біблію, а нешта большае: тое, што было назапашана чалавецтвам. У адной з кніг скарынаўскай Бібліі ёсць такія словы: «Як ад нараджэння звяры, што ходзяць у пустыні, ведаюць ямы свае; птушкі, што лятаюць у паветры, ведаюць гнёзды свае; рыбы, што плаваюць па моры і ў рэках, чуюць віры свае; пчолы і тым падобныя бароняць вуллі свае — так і людзі, дзе нарадзіліся і ўскормлены, да таго месца вялікую ласку маюць». У гэтых словах — мудрасць, якая перадаецца ад чалавека да чалавека.

**Падрыхтавала Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**



# Дзеля развіцця літаратуры

Аляксандр Казінцаў — часты госць Беларусі і ўдзельнік міжнародных літаратурных сустрэч. Сёння пісьменнік з Расіі разважае пра тое, як сучасныя літаратурныя кантакты ўплываюць на развіццё нацыянальных літаратур і ці ёсць у культуры Беларусі нешта асаблівае, што адрозніває яе ад расійскай? Аляксандр Казінцаў, намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Наш современник»:

— Зразумела, кантакты неабходныя. І для развіцця літаратуры — новыя аўтары, новыя прыёмы, новыя тэмы. І для ўзаемаразумення народаў. Можна колькі заўгодна штудзіраваць навуковыя даследаванні, вывучаць статыстыку, але глыбокае разуменне рускага чалавека, рускага характару дасць чытанне В. Распуціна і В. Бялова. Гэтак жа як беларускага — В. Быкава, І. Шамякіна.

Іншая справа — цяпер у чытачоў нашых краін, на жаль, не так шмат магчымасцей пазнаёміцца з навінкамі беларускай і рускай літаратуры. Пра тое, што сітуацыю трэба мяняць, кажуць шмат. Мы ў рэдакцыі часопіса «Наш современник» вырашылі размовамі не абмяжоўвацца. Пачынаючы з 2004 года рэгулярна выпускаем спецыяльныя нумары, прысвечаныя беларускай літаратуры. За гэты час апублікавана больш за 200 беларускіх аўтараў. Ад класікаў — таго ж Івана Шамякіна, да маладых — Юліі Алейчанка, Вікторыі Сінюк, Ганны Мартынчык.

У ліпені гэтага года мы выпусцілі чарговы беларускі нумар, дзе прадстаўлены 12 аўтараў. Вылучу прозу Г. Марчука і А. Бадака, вершы М. Пазнякова, А. Аўруціна, А. Крыклівец, выдатную публіцыстыку Я. Аляксейчыка і В. Вялічкі.

Спадзяюся, гэтыя спецвыпускі, якія мы прымяркоўвалі да Дня Незалежнасці Беларусі, дапамогуць расійскім чытачам атрымаць больш поўнае ўяўленне аб сучасным літаратурным працэсе ў Беларусі. Мы таксама ўдзячны нашым мінскім калегам за тое, што яны публікуюць расійскіх пісьменнікаў, асабліва маладых — А. Цімафеева, Е. Тулушаву, А. Белавусенку.

Што тычыцца асаблівага характару беларускай літаратуры, то ён, вядома, прыкметны. Эмацыянальная стрыманасць, у параўнанні з літаратурай расійскай, пастэльныя тоны, унутраная засяроджанасць аўтараў і герояў. У гэтым плане мне асабліва цікавая творчасць Алеся Бадака, якога шырока публікуе часопіс «Наш современник».

# ГОД БЕЛАРУСКІХ КЛАСІКАЎ У ЧАЧНІ

Адам Ахматукаеў — адзін з найбольш актыўных сучасных чачэнскіх паэтаў і перакладчыкаў. Не так даўно пабачыла свет паэма М. Ю. Лермантава «Мцыры» ў яго перакладзе на чачэнскую мову. Адам Ахматукаеў друкуецца ў «Литературной газете», іншых расійскіх перыядычных выданнях.



Сярод творчых памкненняў чачэнскага паэта і ўвага да беларускага мастацкага слова. Апошнім часам Адам Ахматукаеў пераклаў на сваю родную мову вершы Максіма Багдановіча, Максіма Танка, Міколы Купрэева, Пімена Панчанкі, Алеся Бадака, Алены Стэльмах, Марыі Кобец, Валерыі Радунь. Гэтая паэтычная падборка спланавана да друку ў трэцім нумары літаратурна-мастацкага часопіса «Вайнах», які выдаецца ў Грозным. У найбліжэйшы час гэты штоквартальнік пабачыць свет. Дарэчы, поруч з паэтамі ХХ — ХХІ стагоддзяў знайшлося месца і неўміручым радкам Францыска Скарыны з яго прадмовы да кнігі «Юдзіф».

— Ведаю, што Беларусь сёлета святкуе 500-годдзе кнігадрукавання, — гаворыць Адам Ахматукаеў. — Дык няхай гэты пераклад радкоў Скарыны пра пачуццё патрыятызму, чалавечай годнасці будзе маім сціплым укладам у справу ўшанавання Скарыны і яго наступнікаў.

А параўнальна нядаўна — 25 ліпеня 2017 года — газета «Даймохк» надрукавала паэму Янкі Купалы «Нікому» і тры вершы Якуба Коласа ў перакладзе на чачэнскую мову. Зазірнуўшы ў біябібліяграфічны слоўнік «Беларускія пісьменнікі», можна зрабіць выснову, што дагэтуль на чачэнскай мове быў надрукаваны толькі адзін верш — «А хто там ідзе? » у кнізе Янкі Купалы «"А хто там ідзе?" на мовах народаў свету» (Мінск, 1982 год). Перакладчык — Алвадзі Шайхіеў, які нарадзіўся ў Кыргызстане 12 красавіка 1947 года. Першая яго кніга — «Пачуццё» — выйшла ў 1969 годзе. У 1975 годзе быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў СССР. Зараз ён працуе рэдактарам аддзела паэзіі часопіса «Вайнах». Вось што расказвае пра Алвадзі Шайхіева Адам Ахматукаеў:

«Вельмі вядомы чачэнскі паэт. Шмат зрабіў для выхавання творчай моладзі. І мне асабіста спрыяў у мастацкім развіцці, прафесійным сталенні. Вершы Алвадзі Шайхіева выходзілі асобнымі зборнікамі ў Маскве і Грозным на рускай і чачэнскай мовах. Паэт друкаваўся ў часопісах "Наш современник", "Звезда", "Молодая гвардия", "Дон"… І мне прыемна было даведацца, што і ён спрычыніўся да беларускага мастацкага свету…».

Але ўсё ж такі гэта не адзіная публікацыя нашых класікаў на чачэнскай мове. Перакладалі і Якуба Коласа. Гісторыя, акалічнасці самога перакладу пакуль што да канца не высветлены, але тым не менш… Адам Ахматукаеў, гартаючы кнігі чачэнскіх паэтаў, якія выходзяць зараз, у апошнія гады, звярнуў увагу на другі том з двухтомніка вядомага чачэнскага паэта трагічнага лёсу Магамеда-Саліха Гадаева (1909 — 1972) «Духоўныя пошукі» (Грозны, 2010 год). У ім надрукаваны верш народнага паэта Беларусі Якуба Коласа «Фашысцкім бандытам». Цяжка сказаць, ці друкаваўся гэты пераклад пры жыцці М.-С. Гадаева. Ужо хаця б па той прычыне, што ў 1944 годзе разам са сваімі суродзічамі паэт быў дэпартаваны з роднай старонкі. Вярнуўся дадому ў 1957 годзе. Праз некаторы час быў арыштаваны і асуджаны да доўгатэрміновага пакарання. І ў час Вялікай Айчыннай вайны, і ва ўмовах дэпартацыі і адбыцця першага і другога турэмных тэрмінаў Магамед-Саліх Гадаеў шмат пісаў, у тым ліку раманы, апавяданні, вершы, прыродазнаўчыя навуковыя даследаванні. Шмат перакладаў.

Ці былі здзейснены згаданымі перакладчыкамі ці іх калегамі іншыя пераўвасабленні паэзіі Купалы і Коласа на чачэнскую мову — невядома. Магчыма, наступны біябібліяграфічны, гісторыка-літаратурны пошук нешта новае і прынясе. Пакуль жа застаецца падзякаваць Адаму Ахматукаеву за пашырэнне прасторы класічнай беларускай паэзіі ў Чачні.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

*Дыялог праз кнігу*

# ...З суседзямі

## Другі зборнік «Неделимое русло»: беларуска-расійскі літаратурны праект




Зборнік, створаны сумесна Санкт-Пецярбургскім аддзяленнем арганізацыі «Саюз пісьменнікаў Расіі» і Саюзам пісьменнікаў Беларусі, выйшаў у 2016 годзе. Аб'ём зборніка падзелены парытэтна паміж расійскім і беларускім бокам. Гэтым разам прадстаўлены празаічныя творы на рускай і беларускай мове.

У гістарычным нарысе Андрэя Антонава з Санкт-Пецярбурга «Убит поэт, слуга Отчизны...» падрабязна разглядаецца версія аб наўмысным характары забойства А. С. Пушкіна, уключаючы матывы злачынства і парушэнне правіл падрыхтоўкі дуэлі бокам Дантэса. Сяргей Прохараў таксама захапляўся гісторыяй Пушкіна. І ў гэтым зборніку змешчаны яго твор на гістарычную тэматыку. Назва твора стылізавана пад найменні старажытных дакументальных трактатаў: «Студент военной разведки, или Хождение в Индостан негласного агента русского Генерального штаба в 1905 — 1906 годах». Прызнаюся, тэкст крыху расчараваў: нагадвае дарожныя замалёўкі з вялікай колькасцю ўласных імёнаў, таму складаны для ўспрымання.

Творы некалькіх расійскіх пісьменнікаў прысвечаны ўзаемаадносінам чалавека з прыродай, у прыватнасці Аляксандра Аляксандрава, Ігара Дзядчанкі і Міхаіла Засечына. Жыве ў Расіі традыцыя Паўстоўскага, Прышвіна, Тургенева! А вось пра іншыя традыцыі хацелася б забыць — аб вытворчым натуралізме часоў СССР з паказушным, няшчырым ухваленнем чалавека працы. Поўная супрацьлегласць — кароткая аповесць Анатоля Казлова «Кровеля», напоўненая прозай жыцця, рэалізмам цяжкай прафесіі, траўматызмам, «залётамі па п'янцы». Адназначу жорсткі псіхалагічны аповед Мікалая Каняева «Пётр»: групу турыстаў у гарах захопліваюць абхазскія джыгіты. Гэта не тэрарызм, а неразумны і грубы жарт, але для турыстаў прыгода становіцца сур'ёзным выпрабаваннем маральных асноў… Магчыма, у апавяданнях Віктара Кудраўцава няма такой псіхалагічнай глыбіні. Яго творы — каларытныя жыццёвыя гісторыі, напісаныя настолькі сакавіта, што персанажаў бычцам бачыш на свае вочы. У цэлым падборка ад расійскага боку сведчыць аб добрым літаратурным узроўні: не ўзнікла жадання адкласці кнігу ўбок з-за непрымання напісанага.

Беларускую старонку адкрываюць апавяданні аб навязлівых паслугах «практычнага псіхолага, сертыфікаванага НЛП-практыка, гештальт-тэрапеўта...» аўтара Ніколь Вальe (Надзеі Ніжневай-Ксенафонтавай). У наступным нарысе «Буг в огне» Уладзіміра Вялічкі шмат гаворыцца пра гераізм берасцейцаў. Але падмяшалася лыжка дзёгцю — гістарычныя недакладнасці. Напрыклад, «3 марта 1918 года <…> кайзеровская Германия и Советская Россия подписали Брестский мирный договор. Однако он оказался недолговечным. На рассвете 22 июня 1941 года гитлеровцы <…> вероломно обрушили...». З тэксту вынікае, быццам Брэсцкі дагавор дзейнічаў аж да нацысцкай інтэрвенцыі! Апавяданні Аляксандра Камароўскага, Казіміра Камейшы, Людмілы Кебіч, Алены Папко, Генадзя Пашкова, Мікалая Маляўкі, апублікаваныя на беларускай мове, спадабаліся, і шкада, што ў зборніку, які прызначаны для беларускай і расійскай аўдыторыі, гэтыя творы не на 100 працэнтаў зразумелы рускамоўнаму чытачу. Аповед Міхаіла Пазнякова аб сустрэчы з добрым прывідам — адзіны з адступленнем ад рэалізму, з адчуваннем ціхага смутку... Ніякага хорару ў тэксце няма: і містыка бывае цёплай. Завяршаюць зборнік урыўкі з рамана Мікалая Чаргінца «Аперацыя "Кроў"». Яны выглядаюць, як навелы, але, рызыкну сцвярджаць, не даюць поўнага ўяўлення пра раман.

У кнізе значна больш аўтараў, іх творы ўяўляюць сабой даволі цікавы зрэз сучаснай прозы.

**Анатоль МАТВІЕНКА**

# ГІСТОРЫЯ НАЛЕЖЫЦЬ ЛЮДЗЯМ



**Пісьменнік, перакладчык і драматург з Азербайджана з'яўляецца лаўрэатам шматлікіх літаратурных прэмій, у тым ліку ў Беларусі. Летась Камрана Назірлі адзначылі Міжнароднай літаратурнай прэміяй «Родны дом»: тэма літаратурнага супрацоўніцтва пісьменніку блізкая.**

**— Чым цікавая і прывабная культура Беларусі — гісторыя, сучаснасць?**

— Гісторыя належыць нам, людзям, таму што мы ствараем яе, а ніхто іншы. Тое, што стварае чалавек для радасці і гармоніі, — гэта перш за ўсё культура. У гісторыі і культуры любога народа знойдзецца нямала старонак, якія былі выдатнымі, радаснымі, сумнымі, хвалюючымі ці напоўненымі трагічнымі падзеямі... Вядома, бываюць і выпадковыя з'явы, якія не ўкладваюцца ў рамкі агульнага светаўспрымання. Але ў асноўным гісторыя, у тым ліку і культура, звязаная з рознымі аспектамі чалавечага жыцця, цікавая.

У мяне асабіста цікавасць да Беларусі з'явілася яшчэ ў дзяцінстве, у дзіцячым садку. Тады я ўпершыню пачуў слова «Беларусь»: дырэктарам майго дзіцячага садка была Ніна Мікалаеўна, беларуска, сяброўка маёй маці (фізіка па спецыяльнасці), а муж яе (вайсковец) быў сябрам майго бацькі, гісторыка. У нас дома заўсёды былі цёплыя размовы аб гэтай сціплай беларускай сям'і — пра культуру і маральнасць, далікатнасць і добразычлівасць, прыстойнасць і каханне... Гэта маленькі фрагмент з майго жыцця, а колькі такіх фрагментаў у свеце!? Усе гэтыя фрагменты па-свойму цікавыя і прывабныя.

Культура Беларусі невыпадкова прыцягвае мяне: яна створана людзьмі цудоўнымі, духоўна багатымі... У вас шмат цікавага, павучальных з'яў і падзей, змен. Адметна, што ў вас ёсць прэмія «За духоўнае адраджэнне» дзеячам культуры і мастацтва. Сама назва гэтая мяне ўразіла.

**— Ці ёсць магчымасць у азербайджанскага чытача далучацца да беларускай культуры, літаратуры?**

— Так, ёсць. Але за савецкім часам было больш магчымасцей. Савецкія падручнікі прымусілі нас, так бы мовіць, знаёміцца з культурай і літаратурай іншых народаў, у тым ліку і беларускага. Адзначу, што ў Азербайджане беларуская літаратура заўсёды карысталася поспехам. Адна з асаблівых рыс той эпохі ў тым, што творы нацыянальных літаратур прыпісваліся да «савецкай літаратуры», якой нас вучылі па падручніках.

Натуральна, «савецкая літаратура» складалася з літаратуры народаў і нацый СССР. Гэтая літаратура мела прыкладна аднолькавую ідэйна-палітычную сутнасць. А патрыятычная тэма прапаноўвала ў якасці асноўнага лозунга ўсіх пісьменнікаў і паэтаў — «Трэба любіць вялікую Радзіму — СССР!». У нашых падручніках у асноўным распавядалася пра беларускую літаратуру савецкай эпохі, якая ахоплівала перыяд з 20-х па 80-я гады мінулага стагоддзя. Мы ведалі, што ў Беларусі ёсць такія класікі, як Янка Купала, Якуб Колас, а таксама вядомыя творцы, такія як Максім Танк. Адным з самых вядомых беларускіх пісьменнікаў савецкай эпохі быў Васіль Быкаў. Ведаю, што яго творы перакладаў мой сябар, галоўны рэдактар літаратурнага часопіса "Азербайджан" Інтыгам Гасымзадзэ. Аднак падрабязнай інфармацыі пра літаратурны працэс у Беларусі ў нас не было. Нашы пісьменнікі і паэты ўсяго толькі пераклалі некалькі патрыятычных вершаў Янкі Купалы, Максіма Багдановіча і Якуба Коласа. Ва ўсялякім выпадку ў мае школьныя і студэнцкія гады было менавіта так.

Са скасаваннем савецкай дзяржавы была разбурана і «савецкая літаратура», гэта значыць, адбылося размежаванне нацыянальных літаратур. Паміж нацыянальнымі культурамі, як і ва ўсіх сферах, зніклі сувязі. Але пазней я ўжо сам даведаўся пра многіх вядомых людзей — ад святых Сярэднявечча да лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі і алімпійскіх чэмпіёнаў сучаснасці, ураджэнцаў Беларусі. Чытаў пра Льва Сапегу, гетмана і мысляра Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, Пятра Клімука, першага беларускага касманаўта, Андрэя Грамыку (яго двухтомнік «успаміны»), Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, стваральніка Беларускага тэатра, мастака Міхаіла Савіцкага, Францыска Скарыну, беларускага і ўсходнеславянскага першадрукара...

За апошняе дзесяцігоддзе зроблена шмат крокаў у галіне супрацоўніцтва. Лічу, што нацыянальныя культуры і літаратуры збліжаюцца, пачынаюць наноў і фундаментальна вывучаць адна адну. У апошнія гады ў Азербайджане расце цікавасць да беларускай літаратуры, а ў Беларусі — да азербайджанскай. Хачу адзначыць асаблівую ролю беларускага Выдавецкага дома «Звязда» і Міністэрства інфармацыі Беларусі: праект па літаратуры і культуры «Сугучча» служыць паскарэнню і стымуляванню прац, якія вядуцца ў гэтым кірунку. І мы дасягнулі пэўных поспехаў. За апошнія 2 гады ў нас у Баку ў маім перакладзе выйшлі кнігі вядомых беларускіх пісьменнікаў: Святланы Алексіевіч, Мікалая Чаргінца, Алеся Бадака, Георгія Марчука, Алеся Карлюкевіча... Мае калегі пераклалі творы Таццяны Сівец, Анатоля Матвіенкі.

У нас ёсць і іншыя задумы з Алесем Карлюкевічам, якія маем намер ажыццявіць сумесна. Стварылі рэдакцыйны савет, куды ўваходзяць такія вядомыя беларускія і азербайджанскія пісьменнікі і дзеячы культуры, як Аляксей Чарота, Алесь Бадак, Таццяна Сівец і іншыя... Спадзяюся, наша супрацоўніцтва будзе плённым.

**Падрыхтавала Ларыса ЦІМОШЫК**

# АБМЯНЯЦЦА ПЕРАКЛАДАМІ



**Публіцыст, перакладчык, былы Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Славацкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь (з 2008 па 2013 год) Мар'ян Серватка ўжо не першы год актыўна займаецца літаратурнымі сувязямі паміж нашымі краінамі. Сёлета спадар Серватка ажыццявіў надзвычай карысную справу: у 135-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы ініцыяваў выданне зборніка з перакладамі вершаў беларускага Песняра ў Славакіі і на гэтым не спыняецца:**

— Славацкая культурная супольнасць знаёма з перакладамі друкаваных работ Францыска Скарыны, асабліва з тымі, што былі створаны ў перыяд яго пражскай дзейнасці. Францыск Скарына — адзін з першых, хто пачаў друкаваць кнігі кірыліцай. У сувязі з гэтым хочацца нагадаць чытачам «ЛіМа» аб дзейнасці святых Кірыла і Мяфодзія ў старажытнай Славакіі, якая была адным з культурных цэнтраў Вялікай Маравіі. Гэтыя святыя браты распрацавалі для нас глаголіцу, якая пазней стала асновай для кірыліцы.

Супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Славакіяй паспяхова развіваецца. Нядаўна я прапанаваў Саюзу славацкіх пісьменнікаў выдаць збор вершаў Янкі Купалы на славацкай мове, папрасіў таленавітых перакладчыкаў Яраслава Рэзніка і Сяргея Макара разам са мной папрацаваць над перакладам. Алена Ляшковіч стварыла для кнігі літаратурны партрэт беларускага песняра. Вынік сумеснай працы — збор вершаў Янкі Купалы пад назвай «*Ktože to tam ide?*» — быў выпушчаны ў Славакіі. У Беларусі прэзентацыя кнігі адбылася ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы ў Мінску. Матэрыял паводле прэзентацыі выйшаў у нашым перыядычным выданні «*Literárny týždenník*». Пра тое, як Янка Купала дапамог нашым краінам у пашырэнні славацка-беларускіх літаратурных адносін, распавёў у сваім уступным тэксце «*Maloe laboratórium kul'turnogo dialoga*». Старшыня Саюза славацкіх пісьменнікаў М. Белік прапанаваў прадставіць кнігу «*Ktože to tam ide?*» на нашым кніжным кірмашы «*BIBLIOTEKA*» ў лістападзе бягучага года.

Сумесныя планы маюць працяг: разам з беларускімі сябрамі і далей будаваць літаратурны мост паміж Беларуссю і Славакіяй. Заўважна, што зараз узрастае цікавасць да супрацоўніцтва з боку беларускай літаратурнай перыёдыкі. Спіс людзей, якія ўдзельнічалі ў пашырэнні культурнага дыялогу паміж нашымі краінамі, вельмі доўгі, і я вельмі гэтым задаволены. Паміж нашымі саюзамі пісьменнікаў было падпісана пагадненне, праект «Дыялог культур: Беларусь — Славакія» працягваецца і набывае новыя маштабы. Цяпер мы ў Славакіі чакаем сюрпрыз з Мінска: пераклад на беларускую мову вядомага славацкага паэта.

**Падрыхтавала Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

*Дыялог праз кнігу*

# ...З сутворцамі

## Творы геніяў сусветнай паэзіі — у выданнях кішэннага фармату

Неяк падчас адной з экскурсій па выстаўцы да юбілею паэта пачула меркаванне супрацоўніцы музея, якая шкадавала, што паэтычныя кнігі такога геніяльнага творцы пабачылі свет у такім сціплым фармаце. Маўляў, выданні маглі б быць і больш дыхтоўнымі, манументальнымі. Але навошта? Паэзія — гэта ж не раман-эпапея, які задуменна чытаеш і якому надаеш шмат увагі і часу. Верш — гэта эмоцыя, памкненне як аўтара, так і чытача, штуршок для роздуму, філасофская асэнсавання. Таму мне падаецца, што і серыя «Паэты планеты» цалкам адпавядае думцы пра блізкасць і няўлоўнасць вершаванага радка.

У гэтых маленькіх выданнях — толькі самыя лепшыя паэтычныя творы сапраўдных геніяў сусветнай паэзіі. Зручны кішэнны фармат. Зусім невялікая цана. Менавіта такую канцэпцыю серыі «Паэты планеты» распрацаваў выдавец і перакладчык Зміцер Колас сумесна з рэдкалегіяй праекта. Вершы старажытнагрэчаскай паэтэсы Сапфо і чатырохрадкоўі Амара Хаяма, перакладзеныя з персідскай, неўміручыя санеты Шэкспіра і творы знакамітага Гётэ, паэзія Петраркі, творчыя эксперыменты лаўрэата Нобелеўскай прэміі па літаратуры з Чылі Габрыэлы Містраль і вершы пачынальніка новай паэзіі Рыльке, сапраўдная залатая тройка французскай паэзіі — зборнікі вершаў Шарля Бадлера, П'ера дэ Рансара і Гіёма Апалінэра. Усе гэтыя кнігі ўжо пабачылі свет у межах праекта «Паэты планеты».

— Гэтая серыя нам патрэбна, бо пераклад набліжае кожную нацыянальную літаратуру да ўяўнага вобраза сусветнай літаратуры, — кажа выдавец і перакладчык Зміцер Колас. — Натуральна, сусветная літаратура мусіць рэалізавацца ў пэўнай мове, інакш яна проста застанецца зборам розных нацыянальных літаратур. Але калі найлепшыя творы перакладаюцца на пэўную мову — у нашым выпадку беларускую, то набліжаюць і нашу нацыянальную літаратуру да гэтага высокага ідэалу. І вобразы, якія падаюцца ў перакладах, пачынаюць жыць сваім жыццём, укараняюцца ў творах беларускіх пісьменнікаў.

І сапраўды, пераклады твораў асобных аўтараў на беларускую мову, раскіданыя па старонках часопісаў, інтэрнэт-сайтах і выдавецкіх зборных праектах, не могуць самі па сабе скласціся ў агульную карціну, выстраіцца ў рад і паказаць: так, мы гэта маем і можам ганарыцца. А вось задумка менавіта серыйнага перакладнога выдання надае маленькім сціплым кніжачкам манументальнасці, а зручны кішэнны фармат робіць іх блізкімі і да-




ступнымі. Важна таксама, што маленькія томікі ўключаюць беларускамоўныя перастварэнні розных пакаленняў перакладчыкаў. Гэта Уладзімір Дубоўка, Юрка Гаўрук, Рыгор Барадулін, Зміцер Колас, Ганна Янкута, Лявон Баршчэўскі, Андрэй Хадановіч і іншыя.

Рэдакцыйная калегія серыі плануе, што ў межах праекта пабачыць свет каля сямі дзясяткаў кніг, а можа — і ўся сотня. Дарэчы, ужо рыхтуюцца і новыя выданні «Паэтаў планеты».

**Марына ВЕСЯЛУХА**

**Новіца ТАДЗІЧ**

## Сны

*Часта*
*Сню вершы*
*Апошні раз гэта было*
*Нібыта ў полі з высокай сівай травой*

*Незнаёмы голас як пошум ветру*
*Шаптаў ледзь чутна:*
*«Атамная бомбачка ўпадзе*
*Ў тваю талерачку».*

*І ўжо ў сне*
*Мяне разабраў смех..*
*Калі ж прачнуўся, зарагатаў:*
*«Ха-ха-ха..!*
*Эх!»*

**Любамір ПЕЎЧАВІЧ**

## Сербія

*Мілешава, Грачаніца,*
*Сопачаны, Студзеніца,*
*Калубара, Дрына, Сава,*
*Ібар, Цімак і Марава,*
*Гоч, Голія, Явар, Тара,*
*Оўчар, Каблар, Златар, Шара,*
*Белае Поле, Чорная Трава,*
*Раўная Гара, Кршна галава,*
*Цер, Тапола, Мачкава камене —*
*Усё носіць сербскае знамене.*

## Збор сляпых

*Ні нажа*
*ні хлеба*
*ні солі*
*Нічога*

*Стол пусты*
*і вакол яго*
*сядзяць сляпыя*
*Ні слова*
*ні віна*
*ні песні*
*Нічога*

*Няспешна ўстаюць*
*змроку яны*
*больш не патрэбны*

**Ёван Л. ДЭЛІЧ**

## Пажарышча

*У Прыдворыцы* ліхтары і кулі,*
*як светлякі,*
*І скавытанне сабак растрывожаных.*
*Месяц з-за гор на кінжал падобны,*
*А ценяў-людзей жа так многа,*
*Што ажно скура ёжыцца.*
*І калі вёска заходзіцца енкам,*
*Уцячы можа толькі рэчка.*

*Божае свята, а тут вар'яцтва,*
*Якое ў попел ператварыла хаты.*
*Пажарышча цішаю пакрываецца,*
*Кавалак хлеба застрагае ў горле*
*І з адчаю рукі курч зводзіць.*
*Няма адказу. На душах цяжар.*

* *Вёска бліз Гацка ў Герцагавіне, якую ўсташы-мусульмане якраз на свята Раждджаства Хрыстова спалілі і перабілі ўсё яе насельніцтва, ндаўніх сваіх суседзяў.*

**Боян МАКСІМАВІЧ**

## Бальніцы

*Пакрыла іх вечная бель*
*з абодвух светаў*
*ніхто не ведае нашто*
*ніхто не ведае калі*

*Цемра-госця да іх прыбілася*
*з абодвух светаў*
*ніхто не ведае нашто*
*ніхто не ведае калі*

**Пераклад з сербскай
Івана ЧАРОТЫ**



**Лула КУНІ**

## ***

*Святая срэбразвонная рака…*
*Святыя непраяўленыя лікі…*
*Святыя, захаваныя ў вяках, —*
*Якім і сёння нам вяртаць пазыкі…*
*Маўклівым — не баяцца віру слоў.*
*Аратарам, застылым на скрыжалях,*
*Цярпець няміласць валацуг ізноў,*
*Якія жарсна славы пажадалі.*
*Ды не згадаем пра юрлівых мудрацоў,*
*Што ловяць рыбу ў каламутным моры,*
*Што нажывуцца на народным горы,*
*Ды так, што і не знойдзецца канцоў…*
*Нас — абывацеляў — бо так яны завуць,*
*У здрадзе ціхай падмяшаўшы яду,*
*Яны на баль фальшывы павядуць.*
*Ды ў пантэон мы косткамі не ляжам…*
*А ўсё ж такі — святая немата,*
*Яна — адзіная — бясконцасці парука.*

*Святая срэбразвонная вада —*
*Для амавення апусціце рукі…*

## ***

*Вецер паўночны, што золак нясе,*
*не астудзіў мае ногі.*
*Зноўку ў доўгай, нялёгкай хадзе…*
*Клічуць дарогі.*
*Дыхае пылам важкі бархан —*
*слепіць слязою горкай.*
*Толькі ў далёкім ядвабе вышынь*
*ўспыхнула зорка…*
*Верыш? Ці верыш? Ухленчыць хутчэй!*
*Поўная Чара.*
*Дык не пральецца ж заранак віно*
*ціха і марна.*
*Хай безвыходнасць у роце скрыпіць…*
*Ты ўсё пабачыў:*
*Кожны чакае. Ды Посах зарыт…*
*Дзе ж ты, удача?*

*Вецер паўночны, што золак нясе,*
*ў скрусе заплача.*

**З чачэнскай. Пераклад
Юліі АЛЕЙЧАНКІ**

**Юльян ТУВІМ**

## Бура

*Маланак бліскучыя шпагі*
*Струменямі бляску на дождж,*
*І ўпоперак неба і ўздоўж*
*Калоцяць зямныя прасцягі.*

*І ў гэту гульню грозных шпаг,*
*Пад косыя ліўня удары,*
*Сад трапіў — трасе яго жах*
*І крык яго б'ецца аб хмары.*

## Цёмная ноч

*О, чалавек, ты не спяшайся,*
*Прысядзь са мною.*
*Мы пасядзім, мы памаўчым*
*Парой начною.*

*Ты скінь з сябе*
*Свой куфар цяжкі,*
*Свой груз сірочы.*
*У цёмну ноч мы ўлепім разам*
*Людскія вочы.*

*Што гаварыць? Аб ношы цяжкай?*
*Пра хлеб штодзённы?*
*Аб чым казаць? Два камяні*
*У ночы цёмнай.*

## Два ветры

*Вецер першы ў полі выў,*
*А другі ў садочку быў:*
*Ціха-ціхенька шумеў,*
*Лісце песціў, шалясцеў,*
*Млеў…*

*Першы вецер — грозны вецер!*
*Ён шалёна мчыць па свеце,*
*Пыл узняў, з дарогі збочыў,*
*Віхрам ён да хмар даскочыў,*
*І вярнуўшыся назад,*
*Прама ўпаў на сонны сад,*
*Дзе так ціхенька шумеў,*
*Лісце песціў, шалясцеў*
*Той другі…*
*Здуў ён снегам з вішняў цвет,*
*Пырснуў смехам сад услед,*
*Ён за сябра брата ўзяў*
*І па полі з ім лятаў.*
*Разам гоняць птушкі, хмары,*
*На вятрак наводзяць чары —*
*Крылы ўправа, то налева,*
*Аж трашчыць сухое дрэва,*
*Дзьмуць гарэзы, што ёсць сілы,*
*І сваволяць, каб ім ліха…*

*А ў садочку ціха, ціха…*

**Пераклад з польскай
Сцяпана СЯРГЕЯ**

**Ван ЦЗЯНЬЧЖАО**

## Цягнік

*Цягнік са свістам, што павёз цябе,*
*бязлітасна варочаючы колы,*
*сляпой пачварай*
*праімчаўся міма дома нашага*
*па скасцянелых рэйках.*
*А я затрымаўся ў дарозе,*
*не вярнуўся дамоў, дзе чулася*
*дыханне тваё.*
*Мне не пазірнуць з балкона на цябе*
*у белай сукенцы,*
*на вобраз, што падаўна ўрэзаўся*
*ў маю душу.*
*«Спазніца, спазніца» — гэта было*
*словам самым пагрозным*
*у гады школьныя.*
*Як калючкі кустоўя руж —*
*яно раз за разам кратае мяне*
*успамінамі,*
*мучыць, не дазваляе ўсвядоміць,*
*не дае настроіцца на лірычную хвалю.*
*Вытыркнуўшы чорны язык, поўнач*
*ліжа сарамлівы досвітак.*
*Так, у кахання расклад свой.*
*Шкада, што я прыпазніўся…*
*Далоў вагоны гісторыі,*
*апранутыя ў змяіную скуру.*
*Перабягу вуліцу на чырвонае святло,*
*прадоўжу ў бегу спаборнічаць*
*з часам.*

## Я бачыў, як ты плакала

*…Я бачыў, як крыштальныя слёзы*
*бру*
*і*
*ліся*
*з*
*тваіх воч*
*на лёсу талерку,*
*быццам гора выбівалася*
*з разарванага сэрца,*
*і твар твой*
*быў апалены гарачынёй слёз.*

*Сціскаючы моцна сурвэтку,*
*як лёс у далоні,*
*ты сядзела ля ложка,*
*дугой выгіналася,*
*схаваць спрабавала пачуцці.*

*Тваё тонкія пальцы*
*часам шчыльна сціскаліся,*
*а часам слабелі…*

## Варона на снезе

*Снег. Варона,*
*якая праглынула адзіноту сусвету,*
*падрала старую сарочку суцемак,*
*прарэзліва ўскрыкнуўшы.*

*Тонкімі кінцамі капаецца ў снезе*
*ў прэлай лістоце,*
*быццам шукае пёры сваіх суродзічаў*
*і хлебныя крошкі ісціны.*

*Ля дарогі хістаецца на ветры клён*
*гарбаты, быццам бабулька,*
*скура ў якой не мяккая,*
*мелодыя якой не чароўная —*
*і корміць варону галодную*
*астатняй вячэрай,*
*скінуўшы адзін слой ссохлай кары.*

*Быццё, здаецца, служыць*
*сцвярджэнню ісцін.*
*Цячэ вада талая, змывае*
*негатыў аднае чорна-белае фотакарткі,*
*ноччу*
*застывае ў халодным тумане*
*знаёмая нам варона.*

## Усю вечнасць і адно імгненне

*Суцэльны паток крыку і шчэбету, —*
*своеасаблівы сігнал,*
*Плыве, чапляючы антэны хмарачосаў,*
*І вось я трымаю ў далоні тваю*
*прачулую смс-ку,*
*Як быццам — у абдымках урачыстага*
*свята.*

*Тут жа папраўляю чырвоны джэмпер*
*паверх штаноў,*
*Апераджаючы рэальнасць, думаю*
*аб маёй прыгажуні,*
*А свавольныя рукі ўжо будуюць*
*крыштальны замак кахання,*
*Застаецца толькі ўзяць і ўдваіх*
*завяршыць задуму;*

*Ды жыццё, даходзячы да гэтага*
*моманту, замірае…*
*Вечна кахаць мне цябе, вечна…*

*Ах, не, да вечнасці абавязкова патрэбна*
*дадаць яшчэ імгненне адно!*

**З кітайскай. Пераклад
Міколы МЯТЛІЦКАГА**

Міясат МУСЛІМАВА

## Камяні маёй радзімы

*Раскіданыя там, дзе няма забаронаў,*
*О, якія шчаслівыя вы ў магчымасці*
*глядзець увысь*
*і бачыць бясконцасць шчодрага неба.*
*Гэта адзінае месца, куды вы*
*не можаце ўпасці.*

*Ваша маўчанне*
*здольна высякаць іскры,*
*калі вас сутыкнуць ілбамі.*
*Захоўваемыя ў далонях, каб нанесці*
*удар па адчуванні цяпла,*
*і вымаемыя з-за пазухі на холад,*
*чаму так часта вы падаеце ў ногі*
*да здзіўленага чалавека?*

*Насцігаючы яго дрыгатлівае сэрца*
*альбо трапляючы паміж яго лапатак,*
*чаму не займаеце вызваленае месца,*
*саступаючы яго скразному ветру,*
*не пакідаючы шчылін*
*там, дзе не існуе каранёў?*

*Прыпаўшы рубам да груды сваіх*
*сабратаў*
*альбо захоўваючы адзіноту ў пустыні*
*чужых жаданняў,*
*што ўмеюць заўсёды заставацца сабой*
*і цаніць свабоду чакання,*
*навошта будуеце вы крэпасці*
*для тых,*
*хто бурыць дамы?*

*Ваша маўчанне*
*нагадвае мне надмагільныя пліты*
*на старадаўніх могілках лакцаў*,*
*што пакінулі мне ў спадчыну*
*мастацтва разьбы на клінапісе ветру,*
*майстэрства насяканні на срэбры сталі,*
*і таямніцу слязы, што хаваецца*
*ў вязніцы вачніц,*
*слязы, што ведае адзіны спосаб*
*убачыць гэты свет, —*
*раздзяліць разам з вамі мажлівасць*
*глядзець увысь*
*і бачыць бясконцасць шчодрага неба.*
*Гэта адзіны спосаб не ўпасці.*

*Я хачу быць маленькім каменьчыкам*
*ў далонях тваіх жаданняў,*
*о, мая стомленая радзіма!*

* Лакцы (лакск. лак) — адзін з карэнных народаў Паўночнага Каўказа.

## З каменнага трыпціха

*Ці ёсць тут хто?..*
*Цішыня асядае на дахах,*
*глінай пяршыць паміж сценаў*
*і струменіцца пясчанай тугой.*
*Маўклівая вестка*
*ўздымаецца вышэй і вышэй*
*і шукае свой камень, каб вымаліць*
*вечны спакой.*

*Пчаліныя соты ў засохлым мёдзе*
*на ветры рассыпаюцца пылам —*
*гэта саклі ляпныя дрэмлюць*
*у далонях вяршынь.*
*Эге-гей!.. Ці ёсць тут хто?..*
*Толькі скалы клубяцца быллю,*
*Ды травамі лечыць вецер*
*маршчыны глыбокіх лагчын...*

## Хадзем са мной

*Хадзем са мной па газу, ды з бітонам,*
*прымятым ад няўрымслівых турбот,*
*Дзе дзень ў аблічы страусіным дзесьці*
*блукае паміж стойбішчаў дрымот,*
*І дзе старызнік без'языкі моўчкі вязе*
*на клячы цуды на пасаг,*
*І дзе ў сястры па поясе драпежна*
*спадае ацяжэлая каса.*

*Хадзем са мной па хлеб у старую краму,*
*дзе ў шчыліну сасклізвае пятак,*
*Дзе крошак падгарэлых таямніцы*
*змахнуць так лёгка, нат за проста так,*
*Туды, дзе зноў калодзежныя краны*
*ў цяні акацый льюцца пекнатой,*
*І ноч, хмяльная ад світанкаў ранніх,*
*ведзе са сном свой гандаль за прастой.*

*Хадзем са мной па малако к фургонам,*
*цагляна-жоўтым на старым рагу,*
*Дзе крайні лепей, лепей, чым апошні,*
*дзе прама лепей, лепей,чым наўкруг,*
*Дзе зноў ад мам і ад бабулек мудрых*
*перападзе лагода і цяпло,*
*Дзе часу бег і перасудаў здзекі —*
*ў бітон малочны струйкаю сцякло.*

*Дзе копаць лямпы ценямі па сценах*
*шпурляе здані ў вечаровы змрок,*
*І брат-задзіра у гаротных сненнях*
*скукожыцца з цімянасцю ў клубок,*
*Дзе пад раскошай лапікавых латак,*
*пад коўдрай з каляровых ланцужкоў*
*Я апускаюся ў наіўнаць фарбаў*
*і спаталяю ідэал радкоў.*

*Хадзем са мной за гарызонт агністы —*
*распаліць агнявіцу зарапад,*
*Увойдзем у палі, ручай празрысты,*
*каб захаваць ў далонях гэткі скарб,*
*Каб млечны шлях пад дахам небасхілу*
*аберагаць над спячым малянём,*
*Каб кожны з нас быў Вечнасцю,*
*Мінулым — абпалены архаікі агнём.*

**З дагестанскай. Пераклад Марыі КОБЕЦ**

Саліх ГУРТУЕЎ

## ***

*Свет грукае, спалохана гудзіць,*
*І вочы слепіць вогненая лава.*
*А сэрца зноў на голас твой ляціць,*
*Як быццам ты ад буры ўратавала.*

*Сыходзіць лета ў сонечны прыбой,*
*Зямля апошняй спёкаю саграта.*
*А сэрца ўсё ў слязах перад табой,*
*Як быццам ты назад павернеш лета...*

## У месячную ноч

*Мне споўнілася дваццаць. Цёмнай ноччу*
*Рагаты месяц выйшаў скрозь туман —*
*Бы сон салодкі, казачны падман.*
*Прыслухаўся, а сэрца песні хоча...*

*Выпасваў месяц зорную атару*
*З ціхмянай хмаркі, бы чабан з груда —*
*Тады Сусвет калыскаю гайдаў*
*Маю нясмелую аб шчаснай долі мару.*

*...Штурхае ранак ўладнымі плячыма,*
*Ды свежасць ночы шчэ не адышла,*
*У словах песні макам зацвіла,*
*У словах вечных мудрага Кайсына*.*

*Мой месяц, я пісаў табе нямала:*
*З табой і неба у мяне ўвайшло.*
*Халоднае, гаючае святло*
*Радкі куплетаў новых падказала.*

*Прымі мой верш. Ты мне дапамагаў,*
*Калі я быў у роспачы і смутку,*
*Калі чакаў хвіліны смерці хуткай —*
*Мяне надзеяй светлай акрыляў!*

**З балкарскай. Пераклад Юліі АЛЕЙЧАНКІ**

* Кайсын Куліеў (1917 — 1985) — вядомы балкарскі паэт і празаік. Народны паэт Кабардзіна-Балкарыі (1967).



Фаіза ХАЛІМАВА

## Я ЖЫВУ НА СЁМЫМ ПАВЕРСЕ...

Я жыву на сёмым паверсе... Вачыма свайго дома я гляджу ў твар гораду, які ўжо амаль спіць... Там гарыць святло — часам мігаціць, часам згасае, зноў доўга мігаціць, зноў пачынае згасаць... Па яго венах іншы раз з шумам, а часцей зусім ціха цыркулююць сплавы жалеза з жывым начыннем. Чым больш гусцее цемра, тым меншым робіцца гэты паток...

Дзіўны вецер кранае ўскудлачаныя валасы... Ён нешта спявае начному гораду. У час вялікіх і паскудных спраў ён закалыхвае яго... Белыя, сінія, жоўтыя, чырвоныя, памаранчавыя ўспышкі ўзнімаюцца ў неба... Ён спіць... І ні пра што не дазнаецца, не пачуе... Не ўбачыць чорных і белых плям на сабе. І плямы павялічацца, разрастаючыся... Цікава, якіх зараз больш? Малады і Стары горад, у якім існуюць два зусім розныя светы... Хворы і Здаровы — маленькі і вялікі светы ў гэтым горадзе...

Ці можа быць свет зусім здаровы?

Заўтра цябе абвінавацяць у тым, што ты спаў, калі рабіліся вялікія і паскудныя справы... Але ці вінаваты ты? Ці моцна ты спаў? Адкуль павявае вецер? І хто ж тут дабрадзейны? Ты спіш і не ставіш сабе гэтых простых пытанняў... Стары і Малады горад, дзе жывуць два зусім розныя светы, якія недзе злучаюцца з трэцім... Ажыўляюць і ўмацоўваюць, робяць прахалоднымі твае вены... Распаўсюджваюць міфы па тваіх завулках, раз'ядноўваюць, злучаюць чыесьці думкі... Яны захочуць паглынуць твае вуліцы, яны паспрабуюць разбурыць цябе знутры...

Толькі я магу бачыць цябе такім. Я жыву на сёмым паверсе... Я сёння хварэю...

## ЛІФТ

Раніца. Працоўны дзень. Друкарскі цэх. Толькі-толькі абуджанае цела цягне следам за сабой доўгі шлейф неадчэпнага жаночага парфюму, які кідаецца на шыю мінакам, душыць іх некалькі імгненняў і толькі тады адпускае.

Яна ўзнімаецца па прыступках. Накіроўваецца да галоўнага ўвахода, пасля да ліфта. Націскам чароўнай кнопкі, на якой ужо даўно пасяліліся і мірна жывуць стафілакокі, адчыняе дзверы жалезнай скрыні. «Сім-Салавім!» — жартуе яна ў думках і цягне ўказальны пальчык да серабрыстай панэлькі, да лічбы. Ёй трэба на восьмы паверх. Амаль бязгучна ўзнімае яе гэтая грузавая, балотнага колеру, халодная кабіна... Другі, чацвёрты, шосты, восьмы... І ліфт стаў. Нібыта адчуў схаваную ў глыбіні душы фобію. Так прайшло хвіліны дзве... Зноў і зноў націскае на кнопку «адчыніць», і раптам ліфт у адказ рынуўся ўніз... Чытае першую малітву, якая выплыла з памяці... Ляцяць імгненні, бягуць думкі пра тое, што яна так і не зрабіла і што яшчэ магла б зрабіць, і як старанна маліцца магла б... Мільгаюць на табло чацвёрты, другі... Яна адчувае бязважкасць, скараецца непазбежнасці, заплюшчвае вочы... Цішыня... Ліфт мякка «прызямліўся» і ў апаратный дома — у падвале — стаў. Замкнутая ў кабіне жанчына з палёгкай уздыхае: «Абышлося!..» І ёй нават робіцца смешна за сваю імгненную слабасць.

«З вамі ўсё ў парадку?» — пытае хтосьці зверху, ідаць, ліфцёр. «Усё добра!» — адказвае яна.

## КАВЯРНЯ

Выдатнае надвор'е. Восеньскі дзень. Вольны ад працы час — час абеду: не трэба сустракацца з незнаёмымі людзьмі, весці непатрэбныя размовы, прамаўляць напышлівыя словы і даводзіць фальшывыя ісціны... Свабода думак і разважанняў! І — у «маю» кавярню! Вітаюся з гаспадыняй, раблю заказ. Сядаю на сваё звыклае месца — маленькі столік ля акна — назіральны пункт нумар шэсць. Неўзабаве прыносяць каву і салодкі кавалачак «Венецыі» — маё маленькае шчасце... «Шукран, Шукран!»

Чамусьці сёння застаецца незанятым крэсла насупраць — сумна... Не люблю піць каву ў адзіноце. Раблю глыток чорнага эліксіру бадзёрасці... Насупраць сеў малады чалавек — ён глядзіць закаханымі вачыма. Адварочваюся да акна. «Ды так піць каву немагчыма», — мармычу сама сабе. Адчуваю яго захоплены позірк, паварочваюся да яго і ўсім сваім ганарлівым позіркам нібыта адказваю: «Вы памыліліся». Маўчыць... і пасміхаецца ў адказ.

Праўду кажучы, ён прыгажун і, цалкам магчыма, прыстойны чалавек, і маё самалюбства нават цешыцца з таго, што гэты незвычайны хлопец ад мяне ў такім захапленні... Пірожнае ад яго цёплых позіркаў робіцца яшчэ смачнейшым, напітак яшчэ саладзейшым... Раблю апошні глыток... Знікае аблачынка перад маімі вачыма, а разам з ёю і малады, крыху закаханы ў мяне юнак. Я не люблю піць каву ў адзіноце... «Калі ласка, разлік!»

## ДАРОГА ДАДОМУ

Вечар, як заўсёды, заспеў нечакана і, як заўсёды, у мітусні. На гадзінніку якраз шэсць — канец працоўнага дня. Сплыў яшчэ адзін дзень жыцця, фільтруючы масавую інфармацыю, выкідаючы важныя падзеі ў натоўп... Слізкія лесвіцы, гудзенне... Людзі, як пчолы з вулея, вылазяць са службовых пакояў і спяшаюцца дамоў. Гасне святло ў кабінетах, у якіх з раніцы віравала жыццё, і ў цемры паступова страчваюць цяпло чыесьці штодзённыя прадметы. Але ў некаторых творчых майстэрнях друкарскага цэха ўсё ж гараць неонавыя лямпачкі. Сёй-той яшчэ сядзіць перад экранам «тэхнічнага прагрэсу», уважліва перачытваючы яшчэ цёплы, толькі што сфарміраваны ім твор. Шукае недакладнасці ў тэксце. Працавік...

Праз парадны ўваход ідуць незнаёмыя людзі, але яны жывуць разам са мной пад адным дахам... Углядаюся ў іх твары... Кожны з нас — частка вялікага агульнага адзінага цэлага... Я адзінока крочу, услухоўваючыся ва ўпарты стук сваіх высокіх абцасаў.

Накіроўваюся на прыпынак, дзе ўжо стаяць знаёмыя, калегі. Некаторыя выносяць яркія ўражанні дня, а хтосьці і крыўды... А я? Што я? Трохі стамілася...

«Вам на 29-ы?» — пытае цікаўная асоба. «Так», — згаджаюся ў адказ. Думаю, а можа, сёння ў апошні раз... Уголас: «І так штодзень». «Што вы сказалі, я недачула?» — перапытвае жанчына. Прыехаў аўтобус, я заходжу ў салон, дзверы зачыняюцца... І я ёй крычу: «Адчуванне абсурднасці быцця чакае нас на кожным кроку!»

**З чачэнскай. Пераклад Ірыны КАЧАТКОВАЙ**

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ ПРЭМІЯ:

## знаёмімся з намінантамі

# У чым смак яблыкаў?




**У намінацыі «Дэбют» на атрыманне прэміі прэтэндуе пяць кніг. Сярод іх два зборнікі духоўнай паэзіі: «Путь в небеса» Марыны Пашук (Наследнікавай) і «Тернистый путь» Кацярыны Стройлавай. Малітоўная ўзнёсласць, замілаванасць Божымі цудамі, удзячнасць Богу за магчымасць сагрэцца ля яго дабрадаці — натуральны стан душы для абедзвюх аўтарак, якія ў вучэбнай і прафесійнай сферы непасрэдна далучаны да рэлігійнай дзейнасці. Марына Пашук — выпускніца Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, працуе ў выдавецтве Свята-Елісавецінскага манастыра. Кацярына Стройлава — студэнтка Інстытута тэалогіі імя святых Мяфодзія і Кірыла Белдзяржуніверсітэта. Такім чынам, штодзённае жыццё паэтэс прасякнута адчуваннем набліжанасці да Бога, што яскрава адлюстроўваецца ў іх вершах.**

Творы Марыны Пашук асветлены ціхай радасцю, якая пануе ў душы вернікаў падчас малітвы ці набажэнства. Творы, прадстаўленыя ў зборніку, адрозніваюцца па тэматыцы: побач з рэлігійнымі вершамі тут ёсць роздумы пра каханне, успаміны дзяцінства, прысвячэнні блізкім людзям. Але ўсе яны аб'яднаны адным настроем — адухоўленасць, лагоднасць, чысціня думак:

*Золотые пылинки от лунного света…*
*Серебристых деревьев шепот молитвословный…*
*Верю, счастье — узреть и почувствовать это*
*И наполнится радостью — тихой, безмолвной…*

Вершы Кацярыны Стройлавай больш драматычныя і экспрэсіўныя. Паэтэса звяртаецца да ключавых падзей Святога Пісання: супрацьстаянне Люцыфера Богу, выгнанне людзей з раю, ратаванне немаўляці Майсея, нараджэнне Ісуса Хрыста, здрада Іуды... Аўтар усхвалявана згадвае гэтыя эпізоды: духоўны стан рэлігійнага чалавека — гэта не толькі радаснае суладдзе, але і захапленне, смутак, спачуванне. Кніга «Тернистый путь» — магчымасць узнавіць пачуцці, якія пануюць у душы вернікаў падчас малітвы, чытання рэлігійнай літаратуры, разваг пра ўласную душу:

*Я хочу написать еще несколько строк,*
*Чтоб прославить Всевышнего Бога,*
*Чтоб читатель почувствовать мог,*
*Как прекрасна Христова дорога.*

Так фармулюе сваю творчую канцэпцыю Кацярына Стройлава.

На прэмію таксама прэтэндуюць дзве кнігі з цудоўнымі жніўеньскімі назвамі: «Яблыкі» Маргарыты Латышкевіч і «Водар белага наліву» Кацярыны Роўды. Кніга Кацярыны Роўды, як і два папярэднія паэтычныя зборнікі, пабачыла свет у серыі «Мінскія маладыя галасы» Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. У вершах гэтай паэтэсы ажываюць радкі з класічных твораў, чуюцца галасы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Пімена Панчанкі. Адпаведная і назва першага раздзела — «Мой родны край — маё натхненне». Побач з вершамі пра родную мову і ўспамінамі пра любую вёску ў зборніку багата прысвячэнняў блізкім людзям: каханаму мужу, любым дзеткам, бабулі і дзядулю. У другім раздзеле «Жизнь все расставит по местам» змешчаны рускамоўныя вершы.

Маргарыта Латышкевіч сабрала пад адной вокладкай невялікія эсэ, навелы, гумарэскі, нарысы і апавяданні. Прываблівае ў гэтых творах аптымістычны і рамантычны погляд аўтара на свет. Як адзначала ў рэцэнзіі Наста Грышчук, «рамантычнасць тут не тоесная ружовым акулярам. Гэта хутчэй здольнасць прымаць чалавечыя слабасці. Вера ў тое, што чытач прызнае ў сабе крыўдлівае эгаістычнае дзіця і пасмяецца разам з аўтарам» («ЛіМ» №3, 20 студзеня 2017 г.).

У чым смак яблыкаў Маргарыты Латышкевіч? Напэўна, у тым, каб з кожным новым творам вызначаць, як варта падкарэкціраваць сваё жыцце- і светаўспрыманне — быць больш крытычным, больш рашучым ці, наадварот, ставіцца да жыцця прасцей, бо ўсё непрывабнае, несправядлівае, няўдалае можа быць усяго толькі нагодай для іранічнай заўвагі ці лёгкага жарту.

Самая важкая кніга са спіса намінантаў — прыгодніцка-фантастычны раман Ксеніі Шталянковай «Адваротны бок люстра», якая стала нагодай для самай вялікай лімаўскай рэцэнзіі, прысвечанай намінантам (Н. Грышчук «Проста добрая гісторыя, ці Фантастычны бег па коле» № 21, 27 мая 2016 года). У рамане Ксеніі Шталянковай чароўнае люстэрка дазваляе трапіць з сучаснасці ў XVI стагоддзе — так шаснаццацігадовая Бася знаёміцца з юным шляхцічам Міхалам Саколічам, харунжым князя Мікалая Радзівіла Чорнага. Жыццё герояў поўніцца прыгодамі, сустрэчамі ды расстаннямі, а аўтар тым часам знаёміць чытачоў з вядомымі асобамі часоў панавання Жыгімонта II Аўгуста і распавядае гісторыі розных чароўных прылад. Твор прывабны ўтульнай казачнай атмасферай, ён будзе абсалютна камфортным для сучаснага падлетка. Школа, размовы з бацькамі пра святкаванне дня нараджэння, жарты пра мюслі, адпачынак на лецішчы ў сяброўкі — звыклы свет для беларускіх падлеткаў, з якога зусім няблага выбрацца насустрач таямніцам, новым знаёмствам і тым больш насустрач каханню, сяброўству з чалавекам, які цябе падтрымлівае і разумее, паводзіць сябе гжэчна і мае добрае пачуццё гумару. Пагодзімся з Настай Грышчук: «Адваротны бок люстра» — гэта і якасны твор для падлеткаў, і годны працяг авантурна-прыгодніцкай лініі ў беларускай літаратуры, і новае літаратурнае падарожжа ў часе, і, галоўнае, яскравае сведчанне таго, што ў беларускую літаратуру прыходзяць маладыя таленавітыя аўтары, якія добра ўяўляюць свайго чытача і смела ідуць яму насустрач!».

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Ісціна і родны дом: філасофія беларускіх публіцыстаў

**Публіцыстам можна назваць нават не кожнага таленавітага журналіста ці пісьменніка, часам гэтыя паняцці блытаюць. Насамрэч публіцыст — гэта аўтар, які можа знайсці ў сусвеце нешта такое, пра што ніхто б іншы не толькі не здолеў, але і не збіраўся б распавядаць. Сёлетнія намінанты на Нацыянальную літаратурную прэмію ў галіне публіцыстыкі знайшлі тэмы вельмі розныя: часам відавочныя, непадступныя і складаныя.**

**«Постаці» Зіновія Прыгодзіча** — гэта працяг першай кнігі з аднайменнай назвай, якая выйшла ў 2011 годзе. Тут аўтар таксама вядзе гутарку з асобамі, якія знаходзяцца па-за часам і прасторай, у нейкай асобнай сістэме каардынат, бо героі кнігі (а гэта Наталля Гайда, Валянціна Гаявая, Міхаіл Казінец, Мікалай Яроменка, Максім Лужанін, Леанід Левін, Міхаіл Савіцкі і іншыя) адыходзяць ад сваёй прафесіі і пачынаюць раскрываць зусім з іншага боку. У гэтым і незвычайнасць «Постацей»: аўтар умее не толькі прадставіць суразмоўцу, але і паказаць яго характар, настрой, нават нечакана раскрыць асобу.

Гутаркі Прыгодзіча з яго героямі — гэта не традыцыйныя інтэрв'ю для атрымання адказаў, а дыялогі, якія вядуцца на роўных. І ў іх няма нейкага пафасу, узвышанасці. Часам героі кнігі могуць і пакрытыкаваць, і паскардзіцца, і параіць нешта грамадству, культуры. Менавіта для гэтага і напісана кніга — паказаць не толькі багацце беларускага мастацтва, але і не хаваць недахопаў. Вось, напрыклад, Максім Лужанін кажа: «...Калі быць шчырым, ні нашы празаікі, ні паэты не ўзняліся на ўзровень часу. Літаратурная пасіўнасць, якая, відавочна, зацягнулася, не можа не трывожыць». «Постаці» — гэта кніга дыялогаў герояў у першую чаргу з чытачом, а не з аўтарам, каб грамадства зразумела, што ж такое беларуская культура.

Кніга **Юрыя Татарынава «Гарады Беларусі»** — таксама частка серыі, якая заснавана аўтарам у 1998 годзе. Апошняя кніга Татарынава прысвечана гарадам-музеям, і гэта сапраўдны гід для тых, хто хоча павандраваць па Беларусі. Татарынаў адзначыў, што пачыналіся «Гарады Беларусі» не па яго ўласнай задуме, а па заказе бібліятэк, дзе чытачы пыталіся хоць што-небудзь пра гарады нашай краіны.

Юрый Татарынаў паспрабаваў зрабіць кнігу незвычайнай, наколькі гэта магчыма ў дадзеным выпадку: разам з сухімі біяграфічнымі звесткамі, храналогіяй гарадоў, значнымі, але недастаткова шырока асветленымі падзеямі, аўтар распавядае і пра звыклыя славутасці нашай краіны, і знаходзіць нешта незвычайнае. Напрыклад, у Полацку Татарынаў раіць пабачыць не толькі Сафійскі сабор, але і шматлікія манастыры, будынкі старой акадэміі, не такія папулярныя музеі і нават магілкі. Аповеды пра некаторыя з гарадоў «разбаўлены» цікавымі роздумамі-главамі з назвамі, якія так і вабяць чытача: «Мары і беды Антонія Тызенгаўза», «Аўтар рэцэпта вечнай маладосці», «Гітлер у Барысаве». Канечне, кнігай для забаўляльнага чытання «Гарады Беларусі» не стануць, але калі хочацца звярнуцца да грунтоўнага выдання пра нашу краіну, то кніга Юрыя Татарынава падыдзе найлепш.

**«Каменяцвет не вяне» Антона Параскевіна** — выданне таксама незвычайнае. Напрыклад, таму, што аўтар працуе ўрачом у шумілінскай лякарні. Аднак гэта не перашкаджае яму пісаць вершы, прозу і нават тэксты песень. У 2015 годзе А. Параскевін атрымаў літаратурную прэмію імя Петруся Броўкі. Сёлета пісьменнік намінаваны са сваёй кнігай, якая з'яўляецца заключнай часткай трылогіі аб валунах Шумілiншчыны. Чаму творца звяртаецца да такой тэмы? Ён лічыць, што камень — гэта не толькі самы старажытны прыродны помнік, але і сасуд, які захоўвае ў сабе звесткі пра жыццё чалавека, хавае таямніцы стагоддзяў.

Для Шумілiншчыны камяні сімвалічныя — жыццё кожнай вёскі тычылася іх так ці інакш. Але для А. Параскевіна валуны падаюцца наогул чымсьці большым. Яго кніга — гэта сінтэз тонкага ўспрымання прыроды, філасофіі жыцця і багацця паэтычных вобразаў. Вельмі блізкае выданне і да народа: прымаўкі і прыказкі, легенды, казкі, на якіх заснаваныя апавяданні аўтара, вядомы яму менавіта ад суайчыннікаў. Цікава і тое, што ўсё гэта ўмела ўплецена ў звычайныя чалавечыя гісторыі. Здаецца, чытаеш кнігу пра валуны, а бачыш у ёй самаго сябе: лёс чалавека пісьменнік параўноўвае з лёсам каменя ў самым добрым сэнсе.




Малюнкі Алесі Ісы.

Кніга **Уладзіміра Ягорычава «Ісціна даражэй за ўсё»** — гэта запрашэнне чытача да вельмі глыбокіх роздумаў. Пісьменнік вядомы сваёй схільнасцю да грамадска-палітычных тэкстаў, і новая кніга — пацвярджае гэтае назіранне. Аўтар задае нябачнаму суразмоўцу пытанні: як і чаму мінулае так уплывае на тое, што адбываецца з намі цяпер, што такое гістарычныя факты і альтэрнатывы ў гісторыі? Пры гэтым сам аўтар спрабуе даць адказы і нагадвае чытачу, што чалавек мае ўладу над мінулым, цяперашнім і будучыняй.

Матэрыял для роздумаў У. Ягорычаў знайшоў у канкрэтным гістарычным матэрыяле, таму чытачу будзе лёгка зразумець складаныя тэрміны на канкрэтных прыкладах. Безумоўна, «Ісціна даражэй за ўсё» — гэта не догма, не доказ і, як кажуць, можа не супадаць з меркаваннем рэдакцыі. Але аўтар удакладняе, што выданне павінна па-добраму «прымусіць» чытача пашукаць ісціну, каб захаваць гістарычную памяць народа.

Знайсці **«Прытулак для душы»** вырашыў сваёй кнігай **Расціслаў Бензярук**. Любімы журналісцкі жанр аўтара — нарыс, што заўважна і па новым выданні. Кніга — гэта 40 задакументаваных гадоў, якія аўтар выдаткаваў на сустрэчы з героямі, пошук і збор цікавых фактаў з жыцця сваіх будучых персанажаў. Усе героі Бензярука жылі на Жабінкаўшчыне, таму ніякай выдумкі ў кнізе няма — толькі сапраўднае жыццё незвычайных, але простых людзей са складанымі лёсамі і праблемамі.

«Прытулак для душы» — вельмі трапная назва для кнігі, бо гэта і прытулак уласна герояў, магчыма, самаго аўтара, і, дакладна, чытача. У цёплых, блізкіх гісторыях кожны з нас можа лёгка знайсці сябе і сваіх родных (яно і зразумела, бо ў назвах нарысаў пазначаны сапраўдныя прозвішчы герояў). А гэта людзі, якія знаходзяцца сярод нас, іх вясковыя праблемы, знаёмыя і нам, іх каханне, філасофія («Зоркі там свецяць ярчэй, дзе чалавек прыклаў свае рукі») і страсці, якія мы таксама адчуваем штодня.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Разгадаць непрамоўленае

**Сёлета на Нацыянальную літаратурную прэмію ў галіне «Крытыка — літаратуразнаўства» намінаваны працы трох даследчыкаў: Міхась Мушынскі «Мае Каласавіны: З вопыту вывучэння літаратурнай і грамадска-культурнай дзейнасці Якуба Коласа» (Мінск, «Беларуская навука», 2010); Валерый Назараў «Тайнапіс Андрэя Мрыя. Падтэкст рэалій у творчасці пісьменніка» (Мінск, «Беларуская навука», 2017); цыкл часопісных публікацый Міколая Труса, прысвечаных даследаванню жыцця і творчасці М. Багдановіча.**




Колькасць навуковых праектаў, ініцыяваных прафесарам, доктарам філалагічных навук, членам-карэспандэнтам НАН Беларусі Міхасём Мушынскім, такая вялікая, што, без сумнення, маладое пакаленне літаратуразнаўцаў можа пісаць дысертацыі, у якіх бы падагульняўся навуковы вопыт слыннага даследчыка.

Стыль, навуковыя метады М. Мушынскага вылучаюцца ў нашай літаратуразнаўчай прасторы строгай дакладнасцю, імкненнем да вырашэння найбольш актуальных задач, смелым пераасэнсаваннем ранейшых, у тым ліку і сваіх уласных здабыткаў. У сваіх грунтоўных даследаваннях «Падзвіжнік з Малой Багацькаўкі: жыццёвы і творчы шлях Максіма Гарэцкага», «Праўдзівая гісторыя жыцця і творчасці Міхася Зарэцкага», «Тэксталогія твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа» М. Мушынскі вяртае творчасць славутых пісьменнікаў з няпростым лёсам у той літаратурны і навукова-тэарэтычны кантэкст, у якім яе заўсёды варта было разглядаць — з улікам тых фактаў біяграфіі, якія цягам дзесяцігоддзяў нельга было шырока аналізаваць, тых цэнзурных правак і скарачэнняў, якія часта цалкам змянялі сэнс твора і аўтарскай задумы. Найскладанейшая тэксталагічная праца па аднаўленні аўтарскай творчай волі, ініцыятарам і натхняльнікам якой з'яўляецца М. Мушынскі, мае сваё паслядоўнае матэрыяльнае ўвасабленне ў зборах твораў беларускіх класікаў, якія выходзяць апошнімі гадамі.

Найбольшай увагі даследчыка заўсёды заслугоўваў Якуб Колас. У кнігу «Мае Каласавіны…» ўключаны даклады і выступленні на пленарных і секцыйных пасяджэннях, а таксама некаторыя іншыя артыкулы, звязаныя з літаратурнай спадчынай пісьменніка. М. Мушынскі падкрэслівае, што артыкулы скіраваны «на болей глыбокае вывучэнне твораў Якуба Коласа, на пераасэнсаванне застарэлых, спрошчаных ацэнак, неаб'ектыўных высноў, якія былі зроблены ў папярэднія гады». Надзвычай каштоўным падаецца імкненне вызначыць месца творчай спадчыны класіка ў кантэксце агульнанацыянальнай культуры, якая, безумоўна, шырэйшая за межы літаратурнага свету. Даследчык сваімі высновамі, зробленымі на падставе грунтоўнага навуковага аналізу, нібы гаворыць нам: у спадчыне Коласа — уся Беларусь з яе гісторыяй, з яе побытам, з яе душой. Замест таго каб рабіць адкрыцці, трэба звярнуцца да мастацкіх здабыткаў творцы, якога мы са школьных часоў звыкла называем класікам, але ведаем недастаткова добра, не перачытваем, не ўчытваемся. З болем звяртаецца М. Мушынскі да праблемы ўспрымання творчасці і постаці Коласа ў кантэксце сучаснага грамадскага і літаратурна-творчага жыцця, бо ўрачыстае ўшанаванне юбілейных дат няздольна замяніць па-сапраўднаму ўдумлівага перачытання твораў класікаў. Звяртаючы ўвагу на тое, што сучаснае пакаленне часта не прызнае вартасці многіх твораў, напісаных у першай трэці XX стагоддзя, з-за іх ідэалагічнай зададзенасці, даследчык нястомна паўтарае: «задача даследчыкаў не ў тым, каб ставіць народным песнярам адзнакі, узважваць на нябачных шалях, у каго з іх больш заслуг перад гісторыяй і народам. Ды і па якіх паказчыках гэтыя заслугі можна вызначыць? Бясспрэчна адно: кожны з волатаў нацыянальнай культуры ўнікальны па-свойму».

У кнізе разглядаюцца недастаткова вывучаныя праблемы перакладу паэм «Сымон-музыка» і «Новая зямля» на іншыя мовы, пытанні жанравага вызначэння некаторых твораў. Асобна варта адзначыць і раздзел «Якуб Колас і яго акружэнне», тэма якога з ініцыятывы М. Мушынскага ўпершыню стала прадметам шырокага публічнага абмеркавання. Глыбокі аналіз розных аспектаў узаемасувязі пісьменніка і яго асяроддзя (вядома, з абавязковым прыцягненнем архіўных крыніц, эпісталярных знаходак) стварае для даследчыкаў шмат новых кірункаў навуковага пошуку.

Калі б мы вялі гаворку пра літаратуразнаўчую школу прафесара Мушынскага, то адным з першых згадалі б, вядома, даследчыка беларускай літаратуры першай трэці XX стагоддзя Валерыя Назарава. Нагадаем, што асобная рэцэнзія на яго кнігу «Тайнапіс Андрэя Мрыя. Падтэкст рэалій у творчасці пісьменніка» была змешчана ў нумары «ЛіМа» за 16 снежня 2016 года.

Параўнанне з навуковым стылем М. Мушынскага невыпадковае: тая ж дакладнасць фармулёвак, тое ж уважлівае прачытанне тэарэтычных напрацовак іншых даследчыкаў у спалучэнні з імкненнем да пераасэнсавання спрошчаных і несправядлівых ацэнак. Бачыць больш за напісанае, умець разгадаць непрамоўленае, чытаць падтэкст як тэкст — менавіта такім шляхам вядзе навуковы пошук В. Назараў, а для даследчыка літаратурнага жыцця 1920 — 1930-х гадоў гэта надзвычай важна, бо тагачасныя пісьменнікі толькі паміж радкоў маглі зашыфроўваць сапраўдны сэнс мастацкай задумы. На сённяшні дзень манаграфія В. Назарава — самае поўнае і грунтоўнае даследаванне спадчыны Андрэя Мрыя.

Накіраванасць на сапраўднае, а не дэкларатыўнае пераасэнсаванне творчай спадчыны класікаў выразна прасочваецца і ў цыкле публікацый Міколы Труса, прысвечаных даследаванню жыцця і творчасці М. Багдановіча. Зварот да гэтай тэмы заканамерны: М. Трус — аўтар манаграфіі «Максім Багдановіч: коды жыцця і творчасці» (2015), навуковы рэдактар, складальнік, адзін з аўтараў энцыклапедыі «Максім Багдановіч» (2011). Навуковец звяртаўся найперш да маладаследаваных і невядомых фактаў творчай біяграфіі слыннага паэта. Максім Багдановіч і прэрафаэліты, пераклады яго вершаў на французскую і японскую мовы, супрацоўніцтва з надзвычай папулярнымі ў свой час расійскімі часопісамі «Сатирикон» і «Новый Сатирикон» — тэмы, якія да гэтага часу не займелі належнага асэнсавання. Паводле прызнання самаго М. Труса, яго «даследчыцкі Багдановічаўскі год» ахапіў ЗША, Японію, Расію, Украіну, Літву. М. Трус звяртае ўвагу на неабходнасць змены ракурсаў асэнсавання нацыянальнай класікі і робіць даволі смелыя крокі ў гэтым кірунку. Напрыклад, у артыкуле «Усмешка класіка: накіды нечаканага літаратурнага партрэта Максіма Багдановіча» («Полымя» № 12 за 2016 год) гучыць прапанова адысці ад «міфалагізаванай біяграфіі, вытрыманай у канонах народнага спачування да жыццёвых нягод паэта». Народнае спачуванне — гэта добра, аднак у эмацыянальных межах трагічнага пафасу не змяшчаецца ўвесь Багдановіч. Як вынікае з літаратуразнаўчых росшукаў М. Труса, яго радкі маглі быць і іранічнымі, дасціпнымі, і нават саркастычнымі. У якасці самадастатковай літаратурнай з'явы ацэньваецца афарыстыка паэта.

Артыкул, які прыцягнуў найбольшую ўвагу даследчыкаў творчасці класіка і архівістаў, — бясспрэчна, «Максім Багдановіч у ЗША: невядомая публікацыя 1916 года» («Роднае слова», № 1 за 2016 год). Гаворка вядзецца пра пераклад рускамоўнага нарыса Максіма Багдановіча «Угорская Русь» на ўкраінскую мову, ажыццёўлены амерыканска-ўкраінскім грамадскім дзеячам, журналістам, публіцыстам, перакладчыкам Амяльянам Рэвюком. Нарыс выйшаў у серыі «Бібліятэка вайны» кнігавыдаўца Канстанціна Някрасава (пляменніка знакамітага рускага паэта). Разам з М. Дружыніным з 1909 г. ён выдаваў у Яраслаўлі газету «Голос», з якой цесна супрацоўнічаў М. Багдановіч. Менавіта дзякуючы публікацыі М. Труса, у навуковы ўжытак уведзена невядомая прыжыццёвая публікацыя беларускага класіка, што «істотна пашырае геаграфію прадстаўленасці нацыянальнага пісьменства першых дзесяцігоддзяў XX ст.». Безумоўна, гэта стане штуршком для далейшых літаратуразнаўчых і архіўных знаходак.

**Жана КАПУСТА**

# Гісторыя з характарам

**На перамогу ў намінацыі «Драматургія» сёлета прэтэндуюць два аўтары: прадстаўнік Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Васіль Ткачоў са зборам твораў «Характары» (Мінск, «Беларуская Энцыклапедыя імя Пятруся Броўкі», 2016) і Зінаіда Дудзюк з кнігай п'ес «Францыск Скарына. Гістарычныя драмы» (Брэст, «Альтэрнатыва», 2016), Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ.**

Натуральна, у год 500-годдзя беларускага кнігадрукавання не сустрэць у намінацыі па драматургіі прысвечаны Францыску Скарыне твор было б немагчыма. Таму трэба аддаць належнае спадарыні Дудзюк, якая не спынілася на асноўнай тэме 2017 года: побач з асобай першадрукара («Скарына з Полацка») на старонках яе «Гістарычных драм» з'явіліся іншыя выбітныя дзеячы беларускай культуры. Так, у поле зроку трапілі Тадэвуш Касцюшка («Нарадзіўся я ліцвінам») і Мікола Гусоўскі («Мікола Гусоўскі»). Усе тры п'есы аб'яднаны патрыятызмам, невычэрпнай для літаратуры тэмай творцы і творчасці, а таксама зваротам да гістарычных падзей. Цікава, што ў «Драмах» адлюстроўваецца не толькі стан тагачаснай Беларусі (вядома, у складзе Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай), але і іншых краін свету — Германіі, Прусіі, ЗША і г.д., што можа адначасова стварыць дакладную выяву эпохі і аднавіць веды чытачоў па гісторыі. Героі п'ес, здаецца, жывуць аднолькавымі адчуваннямі, адрозная толькі знешняя абалонка жыццёвых рэалій. Гэта знаёмыя кожнай творчай асобе пакуты: сумненні ў плёне сваёй працы, амаль татальнае непаразуменне з грамадствам і ўладай. Галоўныя патрыёты збору, несумненна, Тадэвуш Касцюшка і Францыск Скарына.

У п'есе «Скарына з Полацка», акрамя постаці Асветніка, бачым Якуба Бабіча — вельмі разумнага і разважлівага чалавека, з вуснаў якога чуем каштоўныя думкі. Часам размовы Скарыны з Бабічам нагадваюць старонкі куртуазнага рамана — героі надзвычай красамоўныя ў выяўленні сваіх ідэй, што можа перашкодзіць сцэнічнаму ўспрыманню твора. Тое самае адчуваецца і ў размовах з жонкай друкара Маргарытай. Напрыклад, фраза, з якой Скарына звяртаецца да яе: «Вельмі прыемна, што такая прыгожая пані знаходзіць час думаць не толькі пра новыя сукенкі, але і пра кніжкі». Здаецца, такі дыялог хутчэй апелюе да нашых сучасніц, а не да жанчын XVI стагоддзя.




Сярод п'ес збору вылучаецца «Мікола Гусоўскі». Адметнасць у тым, як напісаны гэты твор. Аўтар вырашыла прытрымлівацца вершаванага стылю і памеру «Песні пра зубра», арганічна далучаючы да ўласных радкоў вытрымкі з арыгінала: чытач быццам назірае нараджэнне знакамітай паэмы, бачыць Гусоўскага за працай і адразу ж знаёміцца з яе вынікамі. У іншым рэчышчы даследуюць патрыятызм п'есы «Падданыя кахання» і «Берасцейская мелодыя». «Падданыя кахання» — лібрэта оперы. Вядома, пра каханне: у цэнтры ўвагі апынулася сапсаванае вяселле князёўны Ганны Кобрынскай і князя Хведара Бельскага, які ўзяў удзел у змове супраць вялікага князя літоўскага Казіміра IV Ягелончыка. У «Берасцейскай мелодыі» падзеі максімальна набліжаны да нашага часу, бо закранаюць нязменна актуальную тэму Вялікай Айчыннай вайны.

У «Характары» ўвайшлі 12 двухактовых п'ес лаўрэата прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі пісьменніка Васіля Ткачова. Некаторыя п'есы аўтара ўжо з'явіліся на сцэне («Без Ягора будзе гора», «Пераправа на Казанціп», «Жаночы вулей» ды іншыя). Кола праблем, якія ўзнімае В. Ткачоў, надзвычай шырокае. Гэта і аварыя на Чарнобыльскай АЭС («Усміхаўся месяц белай вішні»), і Вялікая Айчынная вайна («Дошкі»), і пасляваеннае жыццё («Стары і дарога»). Ракурс, з якога аўтар глядзіць на праблему, часам незвычайны: «Дошкі» асвятляюць ваенны час праз рамонт падлогі ў памяшканні сельсавета, дзе змесцяць штаб дывізіёна; «Стары і дарога» выбудоўвае дзеянне выключна паблізу дарогі — «сімвала жыцця, веры, надзеі і дабрыні». Апошняя п'еса збору «Страказа і мурашык, або Заблытаныя сцежкі» адрозніваецца ад папярэдніх, бо пазначаецца як «сучасная казка для школьнікаў, студэнтаў і ўсіх дарослых у дзвюх дзеях». Гэта — сатыра ў чыстым выглядзе, але сумніўна, ці варта даваць яе школьнікам. Нягледзячы на ярка акрэсленую мараль казкі, некаторыя паводзіны Страказы могуць засмуціць іх бацькоў: пакуль працавіты Мурашык будуе сціплую хатку, нафарбаваная Старказа едзе за мяжу з багатым Жуком, дзе няўдала пачынае кар'еру танцоўшчыцы шоў-балета ў начным клубе…

Назва збору «Характары» пасуе яго зместу: у цэнтры кожнай п'есы знаходзіцца пэўны характар, герой, які прыцягвае да сябе ўвагу чытачоў. Здаецца, найбольш яркі прыклад моцнага характару ўвасобіўся ў п'есе «Усміхаўся месяц белай вішні»: пасля выбуху на Чарнобыльскай АЭС стары дзед Ігнат не з'язджае з роднай хаты на новае месца, а, як калісьці ў вайну, са стрэльбай у руках абараняе людзей ад новай пошасці — радыяцыі, якая можа прасачыцца далёка за межы небяспечнай зоны з-за эгаізму і сквапнасці марадзёраў, што прадаюць у гарады сабраныя ў пакінутых вёсках прадукты.

Такім чынам, на Нацыянальную літаратурную прэмію ў галіне драматургіі вылучаны зборы п'ес, што маюць свае вартасці і недахопы. На жаль, канкурэнцыя гэтым разам у намінацыі невялікая: мабыць, папулярнасць драматургіі ўзрасце ў наступным годзе?

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# Валерый КАЗАКОЎ:
# «Лепшы “сюр” жыве ў рэальнасці!»




*Валерый Казакоў.*

**Часам лёс складваецца так, што жыць даводзіцца двума жыццямі адразу. Пісьменнік Валерый Казакоў нарадзіўся на Магілёўшчыне, а працуе ў Расіі, але вельмі часта наведвае родную Беларусь. Яшчэ ў маладосці ён быў і афіцэрам, і журналістам, а зараз Казакоў — чыноўнік і літаратар, які ўваходзіць у Саюз пісьменнікаў у Расіі і Беларусі. Вершы, проза і публіцыстыка Казакова друкаваліся ў безлічы перыядычных і спецыялізаваных выданняў, калектыўных зборнікаў. Як Валерый Казакоў сумяшчае дзве працы і дзве краіны, якія кнігі любіць больш за ўсё і над чым працуе зараз?..**

**— У вас не вельмі звычайны шлях да літаратуры — праз чыноўніцтва. Як атрымалася звязаць гэтыя прафесіі?**

— Адзін з першых фільмаў Міхалкова называецца «Свой сярод чужых і чужы сярод сваіх». Гэта дакладна вызначае мяне. Так здарылася, што я аказаўся ў чыноўніцтве выпадкова: быў вайскоўцам і журналістам, пісаў тое, што мне загадвалі ў рэдакцыі. І калі я з'явіўся там, дзе не павінен быў, пачаў за гэтым назіраць, шмат чаго заўважаў і, вядома, трэба было пра гэта распавесці! Калі ты дакранаешся да гэтага сваімі рукамі, нават душой, вельмі цяжка маўчаць. Наогул я пачаў пісаць у вельмі сталым узросце (мне было за 50), хоць я і скончыў Літінстытут. Памятаю, як напісаў адну аповесць, а мой сябар сказаў, што я закапаў тут добры раман. Так з'явілася кніга «Цень гобліна».

**— Страху напісаць не тое, чаго ад вас чакаюць, не было?**

— Калі ёсць страх, тады лепш не ісці ў пісьменніцтва наогул. Усе аўтары, якія зрабілі штосьці для літаратуры і народа, маглі палохацца, але ўсё роўна пісалі тое, што бачылі: знаходзілі дзённікі, нататкі, таму атрымліваліся такія шчырыя кнігі. Мне падаецца, калі чалавек баіцца, то ён становіцца ценем, а для літаратуры гэта непрымальна.

Калі ты пачынаеш пісаць, нешта сядзіць у табе, яно не дае хлусіць, і ты пачынаеш гаварыць аб тым, што ёсць. Я так і раблю, і часам гэта становіцца праблемай: знімаюць з друку асобныя главы маіх кніг, ні адназ майго твора ў Расіі не выйшла без скарачэнняў. Насамрэч, пісьменніку не патрэбны цэнзары, бо ён сам сабе цэнзар. Пісаць пра чыноўніцтва зусім не страшна, бо я ведаю, што ніхто з іх гэтага не прачытае. А калі пра гэта не пісаць, то ўсё будзе стаяць на месцы. Мастацтва ж вядзе да змен: калісьці імператар паглядзеў «Рэвізора» і прымусіў пасля зрабіць праверку па факце гэтай сітуацыі. Зараз жа літаратура пазбягае сацыяльных праблем і тэм наогул — вось вам фэнтэзі, чытайце! А навошта нам фэнтэзі, калі ёсць звычайныя жывыя людзі? Аўдыторыі патрэбны жарсці камунальнага быту, а не выдуманыя гісторыі.

**— У вашых творах вельмі розныя героі. Дзе вы іх знаходзіце?**

— Мае героі прыходзяць да мяне самі. Толькі калі я працаваў над «Чорным катом», я склаў сабе план, сур'ёзна працаваў. Мяне ўразіла, як да кнігі ў выніку паставіліся ў адным з універсітэтаў: сказалі, што гэта правакацыя. Мне падалося, што калі правакацыя — значыць, цікава, ёсць падставы для творчасці. Вобразы гуляюць побач, а калі я пішу, яны самі кладуцца ў тэкст. Мне гэтым падабаецца творчасць Маякоўскага і Вазнясенскага — іх вершы таксама прыходзілі да іх адразу, вобразы знаходзілі іх самі і пасля кіравалі аўтарамі, а не аўтары вобразамі.

**— Не сакрэт, што многія пісьменнікі пачыналі як паэты. Вы таксама пішаце вершы...**

— Гогаль, Кафка, Быкаў — у творах гэтых пісьменнікаў ёсць нейкая паэтычнасць пабудовы, бо многія пачыналі менавіта з вершаў, потым пашыралі межы свайго пісьменства і прыходзілі да прозы. Наогул мне не вельмі падабаецца гэты падзел на паэтаў, празаікаў, публіцыстаў. Мне падаецца, што ўсе гэтыя людзі жывуць у адзіным сусвеце. Напрыклад, у Юрыя Палякова проза вельмі з'едлівая, суровая, ён адзін з самых чытэльных празаікаў Расіі, а пачынаў з паэзіі. Уласна я лічу, што вершы дысцыплінуюць, прымушаюць рэзаць канцы твораў, таму паэзія вельмі карысная для празаіка.

**— Што для вас значыць літаратура?**

— Стан душы — гэта не да мяне. Я лічу, што літаратура — гэта, па-першае, мужнасць. Па-другое, сапраўдны пісьменнік павінен быць у нейкай ступені дысідэнтам для тых, хто кіруе грамадствам, але ён не мае права быць дысідэнтам для свайго народа. Па-трэцяе, гэта праца: складаная, грунтоўная, часам небяспечная. Колькі часу даводзілася цяпер ужо класікам шукаць трапныя фармулёўкі і правільныя словы для сваіх герояў! Я ужо на працягу 13 гадоў працую над раманам «Шэрая плошча». Гэта кніга, дзе я распавяду пра месца, у якім адбываюцца галоўныя з'явы сучаснай Расіі, пра Старую плошчу. Тут шмат містыкі: гэта тычыцца і нумароў будынкаў, і колераў. Вельмі доўга адкідваў гэты матэрыял, думаў, што прыйдзе лепшы для яго час, але зараз зноў працягваю працу, бо найлепшы час — менавіта цяпер.

**— Чаму выбралі для сябе такую няпростую справу — пісаць пра рэальнасць?**

— Па-першае, я беларус, а гэта значыць, што я чалавек сваіх вачэй і кажу пра тое, што бачу. Мяне лёс пацягаў па Усходзе, мне вельмі падабаецца Азія, там людзі такія ж самыя, як у Беларусі. А пра што яшчэ пісаць, навошта выкручвацца? Я ўпэўнены ў тым, што ўвесь самы круты «сюр» можа жыць толькі ў рэальнасці, усё астатняе — гэта псіхічныя захворванні. І калі мне кажуць пра нейкія шэдэўры мастацтва, абстракцыі, я не разумею, як магчымы шэдэўр, які надуманы.

**— Як можна назваць жанр, у якім вы працуеце?**

— Не ведаю... Постмадэрнізм, рэалізм, шмат чаго яшчэ… А наогул я назваў бы яго старым выразам «крытычны рэалізм», бо як пісьменнік гляджу на свет хоць з захапленнем, але з доляй здаровай крытыкі. Я вельмі хацеў бы, каб мне крытыкі сказалі, у якім жанры я пішу. Але крытыкаў зараз вельмі мала, як і грунтоўнай крытычнай школы, якая вельмі патрэбна нашай літаратуры. Пісьменнікі ставяцца адно да аднаго або як да ворага, або як да сябра, адсюль акопная ці кампліментарная праўда, але аб'ектыўнасці няма.

**— Вы працуеце ў дзвюх краінах, што для вас Беларусь?**

— Калі ты пісьменнік, то ты сусветны пісьменнік. Але я не магу назваць сябе касмапалітам, хутчэй беларускім патрыётам. Для мяне Радзіма — першасная, я не змагу ад гэтага адмовіцца, таму жыву на дзве краіны. Мова для мяне таксама вельмі важная, хоць і пішу я ў большасці на рускай. Але напісаныя творы перакладаю на беларускую мову ўласнаручна, толькі карыстаюся дапамогай Ластоўскага, часам пішу на роднай мове апавяданні.

**— Як можаце ахарактарызаваць сучасны беларускі літаратурны працэс?**

— Я скажу, магчыма, не вельмі прыемную рэч: маладых чытаюць маладыя. Яны злуюцца, суперажываюць разам. Літаратура ніколі не на адным месцы не стаяла, таму заўсёды з'яўляюцца новыя імёны. А беларуская літаратура ёсць, яна нікуды не знікла. Пісьменнікі будуць працаваць незалежна ад сітуацыі, бо літаратура з'яўляецца з чаго заўгодна. У Літінстытуце не вучылі пісаць кнігі, давалі базу, а ты сам павінен быў вучыцца. У нашай літаратуры ўжо вельмі шмат зроблена, яе ласцікам сцерці не атрымаецца. Цвятаева казала, што «прыйдзе час і гэтых вершаў». Скарыне спатрэбілася 500 гадоў, каб мы з вамі яго заўважылі.

**— Зараз многія маладыя чытаюць бульварныя раманы, не звяртаючы ўвагі на класіку...**

— Я шакіраваны тым, што сёння людзі чытаюць мала ці выбіраюць нявартыя кнігі. Узгадваю, як калісьці ва ўніверсітэце мы так любілі і хацелі чытаць, што прасілі кнігі ў кагосьці на адзін дзень, шукалі, дзе можна зрабіць копіі. Але ў той жа час я не магу сказаць, што ёсць літаратура дрэнная, — гэта таксама «духоўная страва», бо напаўняе галаву пачуццямі. Зараз час фаст-фуду, менавіта таму і літаратура існуе такая, каб чытаць, не ўключаючы галаву. Камусьці і такое патрэбна. Хто будзе зараз перачытваць Талстога, колькі такіх людзей? На маіх вачах з'явілася бульварная літаратура, сёння такое любяць. Але ці можа пісьменнік напісаць некалькі раманаў за паўгода? Над кожным якасным творам трэба працаваць. Я ведаю толькі аднаго чалавека — Юльяна Сямёнава, які змог за вельмі кароткі тэрмін (здаецца, месяц) напісаць кнігу, па якой пасля знялі фільм «ТАСС упаўнаважаны заявіць».

**— А самі што любіце і любілі чытаць?**

— Пачыналася ўсё з «Міколкі-паравоза» Міхася Лынькова, пасля быў Шамякін. На жаль, я вельмі позна стала дайшоў да Купалы, толькі дарослым зразумеў яго геній. А вось дзякуючы Янку Маўру, нарадзіліся некаторыя мае рэчы. Вядома, я чытаў Караткевіча, Багдановіча і перадусім быў Быкаў. З сучаснікаў вылучыў бы Алену Брава, я прачытаў усё, што яна напісала. Не магу не ўзгадаць тое, што піша Алесь Карлюкевіч. Ён робіць такую справу, на якую не кожны адважыцца: займаецца паляўнічай працай па зборы тых драбніц, якія пакінулі нашы продкі. Гэта той клей, які замацоўвае муры.

**— Калісьці вы гаварылі аб тым, што пісаць пра вайну праўду — складана. А ці ёсць пісьменнікі, у якіх, на вашу думку, гэта атрымалася?**

— Вайна — гэта зусім невялікі прамежак часу ў глабальным маштабе. Але, з іншага боку, на вайне хопіць і гадзіны, каб зразумець, што гэта такое. Для кожнага чалавека вайна розная: праўда салдата ніколі не будзе такой жа, як у генерала. Адзін з маіх настаўнікаў — Яўген Вінакураў, франтавік, маё пакаленне выхавана на ваеннай літаратуры. Мы чыталі творы Вараб'ёва, Быкава, Адамовіча, гэтыя людзі прайшлі вайну. І я мяркую, што гэтая тэма інтэрнацыянальная, бо трагедыя салдата не чужая абодвум бакам, чаго мы не бачым ні ў фільмах, ні ў некаторых кнігах. У мяне ёсць кумір, які пісаў праўду, — Васіль Быкаў. Лепш, чым ён, пра вайну не пісаў ніхто, я гатовы гэта даказваць усім. Мне падабаюцца ўсе яго творы, але любімым я мог бы назваць «Дажыць да світання». Чаму? Бо там, здавалася б, нічога не адбываецца, няма ніякіх баёў, але ёсць прага да жыцця і неверагодна трагічны шлях да разумення смерці.

**— Некаторыя крытыкі параўноўваюць вашу творчасць з Гогалем і Салтыковым-Шчадрыным. Вы згодны з такім параўнаннем?**

— Прыемна, калі пісьменніка параўноўваюць з вялікімі. Мне вельмі цікавы Гогаль, я чытаў усе яго творы, без яго асобы не было б сучаснай літаратуры. Нават маленькія яго апавяданні кшталту «Носа» вартыя многага, пра «Мёртвыя душы» я наогул не кажу. А Салтыкоў-Шчадрын — літаратар, якога Расія не ведала і не ведае. Гогаль быў хлопчыкам у параўнанні са Шчадрыным у сэнсе ўбачанага і напісанага. Мне менавіта таму апошні і бліжэй, бо сам быў губернатарам, бачыў чыноўнікаў са свайго акна ў Вятцы на ўласныя вочы, а не пісаў каля фантана на плошчы Трытона ў Рыме, як Гогаль. На жаль, усе нашы веды пра гэтага пісьменніка грунтуюцца на зусім не тых тэкстах. Вы вось пачытайце «Дзікага памешчыка»!

**— Якія парады далі б тым, хто хоча быць пісьменнікам?**

— Ніякіх правіл не трэба. Я лічу, што галоўнае — адчуць сябе пісьменнікам. Калі пачынаеш пісаць, трэба мець дарадцу, які скажа табе, што — добра, а што — графаманія. А парада ў мяне адна: жыццё — гэта і ёсць пісьменства, а пісьменства — і ёсць жыццё. Я атрымаў галоўны ўрок, які спатрэбіўся мне ў літаратуры: нельга хлусіць і баяцца, усё астатняе — дапушчальна.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# КВЕТКІ З РАЮ

## Імі сустракае мастачка Святлана Каткова

**Яна запрашае на «Спатканне» ў галерэю Міхаіла Савіцкага — там працуе персанальная выстаўка мастачкі, якая ўмее радавацца жыццю, як дзіця. І гэта адлюстроўваюць работы Святланы Катковай.**

Часам вам падаецца, што іх малявала дзіця з чыстым сэрцам і нескажоным поглядам на свет, якога па зямлі вядуць анёлы і паказваюць самыя прыгожыя куткі на зямлі. І не там, недзе далёка, а тут, у сябе на радзіме, дастаткова выглянуць у акно і заўважыць тое, што ў мітусні падаецца ўсяго толькі антуражам. Няпраўда, не антураж гэта і нават не дэкаратыўнае ўпрыгажэнне нашай рэчаіснасці. Гэта і ёсць сама рэчаіснасць, якая існуе паралельна ва ўсёй пышнасці фарбаў і няправільнасці ліній, якую можа прапанаваць боскі свет, у якім ёсць-такі месца чалавеку. Калі ён гатовы, калі ён захоча, калі ён адкрые свае эмоцыі і ўзгадае, што насамрэч ён дзіця прыроды, дзіця Сусвету.

Выстаўка Святланы Сяргееўны як тэст на гатоўнасць і адкрытасць, на здольнасць захапляцца жыццём падзіцячы. Нездарма: мастачка вырасла ў сям'і вядомага ў Мінску легендарнага мастака-настаўніка Сяргея Каткова, вучнямі якога былі многія беларускія мастакі, што жывуць і ствараюць зараз. І дачка шмат навучылася ў таты, прынамсі, як зберагчы і не сапсаваць чысты погляд на тое, што побач. Яна любіць чысты колер, яна цэніць імгненні, у якіх чыстыя эмоцыі, што нараджаюцца без надуманасці і штучнасці, у сузіральнасці і ў парыве захаплення прыгожым: ці то гэта кветкі з уласнага саду, ці то рэчы на стале, што склаліся ў нацюрморт, які радуе вока. І дзіцячая няпэўнасць ліній — насамрэч прыём, з дапамогай якога Святлана Каткова характарызуе сябе як чалавека. Дзе б яна ні знаходзілася — дома ў Беларусі ці ў Іспаніі альбо на далёкім Сахаліне — паўнату ўражанняў перадаюць сакавітыя колеры. Не важна, якая пара года адлюстравана ў той ці іншай рабоце — ва ўсіх ёсць месца яркім фарбам і нават кветкам, любым: бэзу і званочкам, касачам і хрызантэмам… Кветкі могуць быць побач вясной і летам, восенню, і яны могуць радаваць зімой. Таму што ў раі час не падзяляецца на адрэзкі, ён проста ёсць у сваёй бязмежнасці.



*«Сустрэча», 1986 г.*

Можа, яна ведае, што свет — гэта і ёсць рай, толькі мы не задумваемся, таму і не бачым? Тады на «Спатканне» з Катковай!



*«Раніца», 2015 г.*

Яна падрыхтавала шчодры мастацкі прыём: на выстаўцы больш за 70 твораў жывапісу і графікі. Напоўненыя фарбамі алейныя палотны побач з лёгкай акварэллю, але радасны аўтарскі почырк і фантазія пазнавальныя.

Святлана Сяргееўна Каткова годна працягвае справу бацькі. Але на ёй дынастыя не заканчваецца: дачка Зоя Луцэвіч таксама вядомая мастачка ў Беларусі і за межамі, мае ўласны почырк і погляд на рэчы, але ганарыцца дасягненнямі маці. Тым больш што Святлана Каткова была ў складзе творчай групы стваральнікаў мемарыяльнага комплексу «Дзецям — ахвярам Вялікай Айчыннай вайны», што ў вёсцы Чырвоны Бераг. Гэтая работа адзначана Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь. Нібыта іншы твор, але пра тое ж: дзеці прыходзяць з раю і маюць права бачыць і ствараць свой райскі свет на зямлі. З кветкамі-букетамі для мамы, з дрэвамі, багатымі смачнымі пладамі, коткамі сярод іх і птушкамі, якія вось-вось завядуць райскія спевы...

**Марыя АСІПЕНКА**

*Тэатр*

# Да брэсцкай «Вежы»

## Фестываль, дзе сыходзяцца розныя кірункі

**Праграма складзена, тэатралы рыхтуюцца: на пачатку верасня Брэст прымае XXII Міжнародны фестываль «Белая вежа», дзе збяруцца калектывы з розных куткоў свету. Сёлета ў фестывалі возьмуць удзел драматычныя, лялечныя, музычныя, пластычныя і нават вулічныя тэатры з 14 краін свету.**

Усяго 29 спектакляў ад 29 тэатральных калектываў будуць паказаны з 8 па 17 верасня. Пастаноўкі на 11 мовах свету — можна адчуць каларыт краін, нават калі тэатры прывозяць праверaную класіку кшталту Бертольда Брэхта ці Антона Чэхава. Зрэшты, асаблівасць тэатральнага мастацтва ў тым, што калі зроблена ўдумліва і з душой, то прабівае на эмоцыі незалежна ад мовы і нават непатрэбны субцітры з перакладам (але яны ўсё ж будуць).

Тое, што Брэст — тэатральны горад, зразумела і па тым, што фактычна ўсе пляцоўкі ў гэтыя дні будуць аддадзены пад фестывальныя паказы: вялікая і малая залы Брэсцкага акадэмічнага тэатра драмы, Брэсцкі тэатр лялек, спектаклі пройдуць у Абласным грамадска-культурным цэнтры і нават на плошчы Леніна.

На адкрыццё выбралі «Пінскую шляхту» Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Наогул фестывальная афіша 2017 года багатая на эксперыментальныя драматычныя пастаноўкі і спектаклі па сучаснай драматургіі. Уключаны нават тры монаспектаклі, прычым адзін з іх прадставіць гаспадары з Брэсцкага акадэмічнага тэатра драмы: аўтарскі твор «Дарожка мая» ў выкананні лідара этнатрыа «Тройца» Івана Кірчука. Ёсць у праграме спектаклі, якія інтрыгуюць высокімі адзнакамі і ўдзелам вядомых артыстаў. Напрыклад, Маскоўскі тэатр юнага гледача пакажа спектакль «Скрыпка Ротшыльда» па апавяданні А. Чэхава, які атрымаў расійскую тэатральную прэмію «Залатая маска» ў намінацыях «Лепшы спектакль вялікай формы» і «Лепшы мастак». У пастаноўцы заняты народны артыст Расійскай Федэрацыі Валерый Барынаў. Таксама ў брэстаўчан і гасцей ёсць магчымасць паглядзець на працу Аляксандра Балуева ў спектаклі «ВДВ. Усім добры вечар!». У Брэсце сёлета нядрэннае прадстаўніцтва і беларускіх тэатраў, у тым ліку з эксперыментальнымі пастаноўкамі, сярод якіх, напрыклад, «Опіум» Цэнтра візуальных і выканальніцкіх мастацтваў «Арт-Карпарэйшн» пра выбар чалавека, які жыве ў невялікім горадзе, і небяспеку, якая можа чакаць кожнага ў любы момант жыцця. Сучасны тэатр гаворыць з людзьмі пра тое, што ім баліць. І пра ўсё астатняе таксама...

**Марыя АСІПЕНКА**

# Казка, смачна: 0+

На тое, што смачна, для сваіх любімых малых бацькі не шкадуюць грошай. Вось і ідэю фестывалю тэатра, музыкі і чытва «Казачны джэм» падтрымалі не проста на словах, але і на справе. Сёлета фестываль адбудзецца трэці раз дзякуючы фінансавай падтрымцы, якую арганізатары атрымалі праз краўдфандынг. Гэтую казку бацькі падарылі сваім дзецям, разумеючы, што «Казачны джэм» — фестываль унікальны ў сваім родзе: яго гледачамі могуць быць дзеткі, якім яшчэ няма і года!..



Але нават самыя маленькія гледачы адгукаюцца і рэагуюць на тое, што казка ажывае. Тут яе прафесійна распавядаюць калектывы і акцёры з розных краін. Тут казкі чытаюць, нават можна паспрабаваць увасобіць іх герояў сваімі рукамі. І хоць традыцыю чытання дзецям казак бацькамі ніхто не адмяняў, для апошніх можа быць адкрыццём тое, як тэатралізаваная казка ўваходзіць у жыццё літаральна, бо яе паказы інтэрактыўныя. У нас ёсць тэатры і асобныя артысты, для якіх казка не проста праца, а частка жыцця. Як для Святланы Бень і яе тэатра «Кардонка» ці для бэбі-тэатра «Пацеркі», які стаў адным з арганізатараў фестывалю разам з культурна-асветнай установай «Арт-Кропка» і Нацыянальным цэнтрам сучасных мастацтваў Беларусі. У фестывалі сёлета плануюцца ўдзельнікі як з Беларусі, так і з іншых краін. Але цікавы ён не толькі самімі чытаннямі казак ці паказамі пастановак. Гэты фестываль прадугледжвае майстар-класы для дзяцей і самае карыснае — для бацькоў, каб яны ўмелі самі ствараць казку для сваіх малых.

**Марыя АСІПЕНКА**

# ГАСТРОЛЬНЫ АБМЕН

## чакаецца ў Беларускім дзяржаўным маладзёжным тэатры

Наш калектыў едзе з гастролямі ў Яраслаўль. Прычым для паказу выбраны шэсць спектакляў на любы густ і ўзрост: «Старая чароўная казка» паводле Д. Галубецкага, «Козий остров» В. Бэці, «Заспетыя знянацку каханнем» В. Алена, «Кар'ера Чэлясціна» А. Нікалаі, «Каханне ўтрох» А. Курбскага і М. Берк'е-Марыньe, «Дваяжэнец» А. Мілера. Усе гэтыя пастаноўкі беларускі тэатр пакажа за пяць дзён з 20 верасня.

Нас, наадварот, чакае сустрэча з Яраслаўскім дзяржаўным тэатрам імя В. Розава, які будзе працаваць на сцэне беларускага тэатра з 12 верасня. У праграме два дзіцячыя спектаклі — «Брэменскія музыканты» Г. Гладкова, «Піпі Доўгаяпанчоха» А. Ліндгрэн. Цікава пазнаёміцца з яраслаўскай версіяй «Яўгена Анегіна» паводле А. Пушкіна. Таксама прывязуць спектаклі «Дзікуны» паводле С. Міхалкова і «Пяць вечароў» А. Валодзіна.

Адметны сам факт абменных гастроляў — у наш час гэта рэдкая з'ява.

**Марыя АСІПЕНКА**

# Маленькае жыццё

## Размова пра(з) плёнку: Аксана Эйхарт пра «Летапіс»

**Часам кіно бывае нечым значна большым за плёнку: гэта чыесьці ўспаміны, задумы, нават жыццё. Самае цікавае: здараецца, што ў фільмах яшчэ больш жыццёвасці, чым у самім жыцці, асабліва ў стужках дакументальных. Тут не будзе гіперрэальнасці, перабольшванняў ці выдумак — толькі канцэнтраванае чалавечае жыццё. Такая і беларуская кінадакументалістыка ў лепшых яе праяўленнях. Але гэта яшчэ і своеасаблівыя «дакументы» ў кінавобразах. Іх працягваюць ствараць і сёння. Як гэта адбываецца, якое новае неігравое кіно мы ўбачым на экранах і якімі былі лепшыя ў айчыннай дакументалістыцы, распавяла дырэктар студыі «Летапіс» Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм» Аксана Эйхарт.**

**— Аксана Валянцінаўна, на ваш асабісты погляд, чаму дакументальнае кіно — важнае?**

— Важнасць у самой назве студы. «Летапіс» — вельмі дакладнае слова. У любой краіне студыя дакументальных фільмаў павінна выконваць задачу фіксацыі часу, і гэта можна рабіць па-рознаму. Напрыклад, праз здымкі падзей, партрэты людзей, вядомых і невядомых, але вельмі важных. Я вяду да таго, што любая дакументальная стужка становіцца вобразным увасабленнем нашага часу, бо фіксацыя сённяшняга дня — не проста важная, але і цікавая. Гэта і раней было неабходным — узгадайце, нават у часы вайны здымалі хроніку.

Часам фіксацыя атрымліваецца высокамастацкай, і гэта выліваецца ў аўтарскае кіно з фестывальным жыццём, а часам і не атрымліваецца, як у любой творчасці, бо гэта тонкая матэрыя. Нягледзячы на ўсе складанасці, якія ёсць у студыі, я перакананая, што рэжысёр тут можа дазволіць сабе многае: працаваць з тэрмінамі вытворчасці (мы абмяркавалі з Міністэрствам культуры важнасць прыпынення здымак, а затым іх працягу), выкарыстоўваць тэхніку (сучаснае абсталяванне кшталту квадракоптараў і стэдзікамаў), незалежна ад памеру фінансавання, выязджаць у камандзіроўкі, калі таго патрабуе стужка. Рэжысёру важна засяродзіцца, бо калі ён дакладна ведае, чаго хоча, ад чаго можна пазбавіцца, а што неабходна, аўтарскую стужку можна стварыць.

**— Чаму гледачы сёння не разумеюць гэтай важнасці і звыкла глядзяць ігравое кіно?**

— Наш глядач не вельмі хоча напружвацца пасля працы, часам я і сама такая. Калі па тэлебачанні ідзе класіка, я ведаю, што трэба яе паглядзець, але ў той жа час вельмі хочацца чагосьці лёгкага, без паглыблення ў сюжэт, бо ўсё ж фільмы вартыя трэба глядзець у кінатэатрах. Тым не менш чалавек павінен быць нагледжаным, каб умець адрозніць добрае ад дрэннага. І чым больш глядзець добрага кіно, тым лепшы будзе густ у нашага гледача і тым больш яму будзе хацецца паглядзець штосьці вартае.

Трэба мець і нейкую агульную культуру, каб аўдыторыя глядзела «Мяжу Нарвілішак» Дзмітрыя Махамета і разумела, што гэта кіно не пра алкаголікаў і іх развяжанні, а, як сказала Галіна Адамовіч, «пасланне ў космас». На жаль, не многія ў нашай краіне могуць такое ацаніць, і гэта праблема, бо майстроў кінематографа хапае, але не хапае тых, хто можа іх справу палічыць вартай. З гледачом трэба працаваць, сустракацца і паказваць яму фільмы — менавіта ў гэтым выратаванне нашага кіно і стымул для працы рэжысёраў.

**— Магчыма, справа ў тым, што наогул нацыянальнае кіно не выклікае цікавасці ў айчыннага гледача, але ў іншых краінах назіраецца адваротная сітуацыя...**

— Так, я чула гісторыю, калі ў адным з куткоў Расіі, дзесьці за Палярным кругам, пачалі здымаць кіно, прычым незвычайным спосабам, як калісьці пачыналі ў Каліфорніі: і рэжысёрам, і аператарам, і сцэнарыстам мог быць адзін чалавек, а акцёрамі — яго сям'я ці знаёмыя. І іх фільмамі зацікавіліся ў пракаце, глядач пайшоў у кінатэатры. На грошы, якія атрымалі ініцыятары з паказаў, нанялі прафесійных кінематаграфістаў, набылі абсталяванне, словам, як у Галівудзе. Зараз яны пабудавалі ўласныя маленькія кінатэатры і паказваюць свае фільмы, нават супрацоўнічаюць з Фондам кіно. А ў чым поспех? У тым, што кіно пра іх саміх, бо ніхто больш такога здымаць не будзе, і для гледача — гэта падарунак. Чаму ў нас няма такога, пакуль незразумела. Думаю, трэба быць бліжэй да гледача.

**— У беларускіх стужках рэжысёры гавораць пра нас? Што зараз здымаецца на «Летапісе»?**

— Зараз у вытворчасці знаходзіцца 12 стужак, улічваючы, што ўжо 7 фільмаў мы сёлета здалі. Рэжысёры працуюць над поўнаметражным кіно: «Чалавек з фотаапаратам» Вольгі Дашук і «Беларуская Атлантыда» Віктара Аслюка будуць гатовы ў канцы года. Таксама мы здымаем цыкл фільмаў пра намінантаў на Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь у галіне культуры, у якім будзе 8 стужак, спрабуем расказаць і пра людзей, і пра іх дасягненні. Наогул праца над гэтым цыклам вельмі сімвалічная, бо мастацкі кіраўнік праекта народны артыст Анатоль Алай сам быў намінантам на гэтую прэмію. Яшчэ здымаецца стужка пра Нацыянальны архіў Беларусі: тэма, здавалася б, не гучыць узрушальна, але здымачная група з'ездзіла ў архіў і зразумела, што праз дакументы, якія там захоўваюцца, можна распавесці шмат цікавых гісторый. Думаю, што дакументальнае кіно павінна захаваць для нашчадкаў атмасферу, тое, што ёсць у паветры, каб глядач мог гэта адчуць нават праз шмат гадоў. Спадзяюся, праз нашы фільмы гэта атрымаецца.

**— Ці вялікі ў студыі штат?**

— Да нядаўняга часу было пяць рэжысёраў — Віктар Аслюк, Галіна Адамовіч, Вольга Дашук, Юрый Цімафееў і Яўген Сяцько. Нядаўна ў штат залічылі Ігара Чышчэню, які, дарэчы, запускае стужку пра дзіцячага пісьменніка Міхася Пазнякова. Рэжысёраў у нас няшмат, і ўсе яны вельмі розныя, творчыя, заўсёды ў пошуках. Працуюць у нас і пазаштатныя рэжысёры, калі ў іх ёсць цікавыя праекты.

**— Рэжысёры часта выказваюцца ў кіно на тэмы, якія прыдумалі не яны самі? І ў якіх выпадках можна зняць уласную стужку?**

— Ідэальны варыянт, калі рэжысёр да такой ступені пераканаўчы ў тым, што ён хоча зняць, што можа пераканаць у гэтым і міністэрства. Але, шчыра кажучы, не заўсёды так бывае. У нас зараз ёсць некалькі ідэй, якія мы б вельмі хацелі рэалізаваць, але ў міністэрстве адклалі іх на потым, хоць рэжысёры працягваюць над імі працаваць. Мы спрабуем размаўляць, пераконваць сцэнарыямі і сінопсісамі, даносіць, што гэта неабходна.

**— Зразумела, што колькасць фільмаў залежыць ад фінансавання, як студыя яго шукае?**



*Кадр з фільма «Кола» (рэж. В. Аслюк).*

— Мы ў бесперапынных пошуках, спрабуем знаходзіць варыянты сумеснай вытворчасці, але гэта зрабіць складана. Асноўная частка — грошы, якія выдаткоўвае Міністэрства культуры, і апошнія 5 гадоў гэтыя сродкі не даюць у такой колькасці, каб мы маглі павялічыць аб'ём фільмаў. Вытворчасць вельмі дарагая, і калі астатнія віды мастацтва не такія выдаткоўныя, то ў нас за кожны крок трэба плаціць, я ўжо не кажу пра тэхнічнае абсталяванне. Цяжкасці ў нас ёсць, але дзяржава разумее значнасць дакументальнага кіно, таму сродкі выдаткоўваюцца. Праўда, грошы вылучаюцца на конкурснай аснове, а конкурсы праводзяцца нерэгулярна. Зараз мы працуем па выніках мінулагодняга конкурсу, хутка плануем зрабіць паказ знятых стужак.

**— Год назад узнімалася пытанне наконт будучыні студыі...**

— Так, але ў наступным годзе «Летапіс» адзначыць 50-гадовы юбілей. Нас хацелі аб'яднаць з іншымі студыямі «Беларусьфільма». Справа ў тым, што ў кожнага з відаў кіно свая спецыфіка, і аб'яднаць іх проста немагчыма. Дакументальнае кіно магло б аказацца за бортам. Але пытанне вырашылася ў наш бок пасля таго, як мы растлумачылі міністэрству немэтазгоднасць такога аб'яднання. Пасля ў нас не было заказаў, бо конкурс кінапраектаў не аб'яўлялі. Рэжысёры стаялі ў прастоі, а кожны прастой — гэта чалавек, які пачынае шукаць іншыя магчымасці працаваць і выключаецца са студыйнага працэсу на «Летапісе». Сітуацыя была няпэўная, але конкурс нарэшце правялі. Усе рэжысёры цяпер занятыя, у іх шмат тэм і жадання працаваць, хоць, вядома, цяперашні аб'ём работы не параўнаць з тым, што быў на «Летапісе» нават 10 гадоў назад, калі ў нас было шмат розных стужак. Сёння мы не можам дазволіць сабе ахопліваць настолькі многа тэм.

**— Задумваліся аб тым, як вярнуць лепшыя гады студыі?**

— Мы вельмі гэтага хочам, у нас шмат планаў. Хочацца рухацца ў новым кірунку, штосьці дадаваць. Напрыклад, каб было аўтарскае кіно для фестываляў і навукова-папулярныя стужкі, якія можна было б прадаваць. У нас зусім не задзейнічаны такі від, як «Кіналетапіс», а раней ён быў вельмі папулярны. Напрыклад, мы маглі б зняць стужку пра будаўніцтва АЭС ад першага да апошняга дня, і такіх падзей у краіне вельмі многа. Зараз мы атрымліваем фінансаванне на пэўны тэрмін здымак, а хацелася б здымаць і нешта пазапланавае: я прыхільніца таго, каб мы стварылі і летапісныя матэрыялы, а не толькі кінафільмы. У Расіі ўжо зразумелі важнасць такіх здымак і зрабілі іх асобнай катэгорыяй. Нам кажуць, што стужкі неакупныя, але мы маглі б вяртаць грошы часткова, каб кіно дзесьці дэманстравалася, зараз нават на *YouTube* можна атрымліваць грошы.

**— Дарэчы, пра *YouTube*. У архівах студыі захоўваецца шмат выдатных фільмаў, не збіраецеся выкласці іх на свой канал?**

— Так, у архіве студыі знаходзіцца шмат стужак не проста добрых, а тых, якія праславілі «Летапіс». Ёсць размовы пра тое, каб зрабіць іх лічбавыя версіі і данесці да сучаснага гледача. Але алічбаваць фільмы — вельмі доўгі і дарагі працэс. (Хоць у выніку рэканструкцыі кінастудыі тут з'явіцца неабходнае абсталяванне, і гэта палепшыць сітуацыю.) Мы зацікаўленыя ў тым, каб гэтыя стужкі пасля паказвалі, і вельмі хацелася б, каб гэта рабілася на рэгулярнай аснове. Я ўзгадваю сваё навучанне ў ВГІКу, тады мы хадзілі ў кінатэатры, дзе паказвалі менавіта такое кіно, над якім трэба паразважаць. Мне б хацелася ўбачыць штосьці падобнае ў Мінску, хоць бы ў межах аднаго праекта з неігравым кіно.

**— А што наконт маладых кінематаграфістаў? Супрацоўнічаеце з імі?**

— Мы запрашаем студэнтаў з Акадэміі мастацтваў працаваць з намі. Некаторым я тэлефанавала сама, мы пітчынгавалі іх праекты, але гэта такі доўгі працэс, што некаторыя студэнты не вытрымлівалі і здымалі свае фільмы за іншыя сродкі. А з некаторымі супрацоўніцтва атрымалася: вельмі добрае кіно зняла малады кінематаграфіст Марыя Курачова пра абрад «Чырачка», нядаўна Дар'я Юркевіч падала заяўку на свой праект. Я сачу за маладымі рэжысёрамі, усе нашы супрацоўнікі цікавяцца тым, хто і што стварае, знаёмяцца з аўтарамі. Я ведаю і пра тое, што здымаюць незалежныя кінематаграфісты, і ў мяне няма такога меркавання, што яны павінны быць самі па сабе. Калі я заўважаю талент, то з задавальненнем магу прапанаваць супрацоўніцтва. Мне хацелася б, каб усе дакументалісты былі разам. Шмат новых работ бачу і на «Лістападзе», вельмі цікава глядзець праграму з іншых краін — можна прасачыць, куды ідзе кіно, да чаго трэба імкнуцца і як выкарыстаць гэта ў нашых умовах.

**— Маладыя здымаюць кіно нефарматнае, ці зразумее гэта глядач?**

— Тая ж Дар'я Юркевіч ужо здымала на «Беларусьфільме» кіно «Максім і Дар'я» пра Максіма Багдановіча і сябе. Тады гэты фільм не зразумелі, бо чакалі біяграфіі, храналогіі, а атрымалася кіно пра сучасную дзяўчыну, якая жыве ў іншай краіне, а ў яе галаве ўсплываюць вершы Багдановіча і думкі пра яго. Чамусьці ўсе чакаюць ад фільмаў пра асоб біяграфічных звестак, але я гэтага не разумею. Такое можна прачытаць у кнігах, а вось успрыманне чалавекам іншай асобы дарагога варта. Тое ж самае адбылося з фільмам Аслюка пра Янку Купалу: сюжэт павярнуўся зусім у іншы бок, і там ёсць адна вельмі каштоўная для дакументальнага кіно рэч — рэакцыя жывога чалавека, «бачанне» душы.

**— Вы працуеце на студыі ўжо даўно, таму лепш за ўсіх ведаеце, што з беларускай дакументалістыкі абавязкова трэба паглядзець...**

— Так, я была дырэктарам карцін, і нават зараз магу дакладна сказаць, што фільм — маленькае жыццё. Я вельмі любіла момант пачатку, калі падпісвала запуск стужкі, кожнае кіно было новай надзеяй, таму я кожную стужку люблю. У апошні час я чамусьці часта пачала ўзгадваць фільм «Гудзёлка» Адольфа Канеўскага. Гэта гісторыя пра пажылую пару, якая жыве на хутары. Здавалася б, паказваліся звычайныя для вёскі рэчы: бабуля даглядае жывёлу, а дзядуля-самавучка стварае музычныя інструменты, за якімі ў філармоніі была чарга. І гэты цыкл жыцця, кругаварот падзей рэжысёр вельмі ўмела закрывае. Чымсьці гэтая стужка нагадвае фільм Аслюка «Кола» — вось тваё жыццё…

Стужка Галіны Адамовіч «Божа мой» вельмі каштоўная для мяне. Яна атрымала галоўны прыз на фестывалі ў Карлавых Варах. Гэта было падзеяй. Тут таксама тэма творчасці і жыцця: старая жанчына з вачыма маладой дзяўчыны стварае скульптуры з цэменту. Мне б хацелася такіх моцных аўтарскіх фільмаў.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

На сваёй струне



# ПТУШКІ ЛЕАНАРДА,

альбо Яблыкі з вілейскага саду

## Інтэрферэнцыя святла



Леанарда да Вінчы. Вітрувіянскі чалавек.

Праца скончана, засталіся дэталі. Твор — завершаны. Майстар — зняможаны. Майстар перайшоў у твор, саступіўшы месца спустошанасці і выснажанасці. Цяпер можна «пайсці ў народ».

Леанарда выбіраў вузкія вулкі. Мінаў сцены ў мяккай зяленіне і калiткі з мармуровымі скульптурамі: асаблівае італьянскае спалучэнне — далікатны тон лістоты і зменлівы тон мармуру.

На маленькіх плошчах прыпыняўся. Глядзеў на неба. «Цэлай вярстой тут чалавек бліжэй да боскага», — пазней заўважыць М. Гогаль. Сёння можна на кірмаш. Там суцэльны гандаль і вір зямных эмоцый. Усё для ўсіх. Створанае шчасце засталося ў майстэрні. Не прадаецца. Немагчыма прадаць водар, смак чысціні, усмешку Анёла…

Натоўп майстра не заўважае. Вызваленая ад творчых пакут душа лунае над разняволеным выкананай работай целам. Іх натоўп не бачыць. Дні паглыбленай работы ствараюць у майстэрні густы, нібы сёлетні мёд, эфір. Тугая празрыстая плазма ахутвае майстра і выходзіць з майстэрні стражнікам — хопіць на ўсё дзённае падарожжа. Леанарда ведае гэта. Ён прастуе на кірмаш.

Звычка хадзіць на кірмаш узнікла ў юнацтве, калі быў прыняты, у якасці выключэння, у мастацкую гільдыю Фларэнцыі. Ліпкае ніцява вулічнага павуціння, сплеценага з пярэстага адзення, чаравікаў, позіркаў і воклічаў, праплывае міма. Разматаць пахаў і колераў плыве паўз яго, не кранаючы яго. Стракатая, бруістая шматлюднасць пакорліва абмінае апранутую ў стому, ахутаную спакоем адзіноту. *«Анёлу дзе зямному фарбы ўзяць, каб прыгажосць уславіць незямную? Павінен ён з майстэрні выйсці, пазычыць з неба, ці на небе пабываць…» (Дж. Марына).*

Ён ішоў туды, дзе прадавалі птушак. Дзе стракаталі і трывожыліся ў клетках даверлівыя шчыглы, пяшчотнагалосыя турчыкі, зімародкі, шулячкі, крыжанкі, чыркі, а таксама і прокны-ластавачкі, філамены-салаўі і тэрэйўдоды. Леанарда ўсміхаецца.

З птушкамі можна размаўляць. Яны прадкажуць надвор'е. Абвесцяць новы дзень. З вышыні Сусветнага дрэва прынясуць вестку. Навошта ж іх саджаць за краты? У іх ёсць свае аб'екты мастацтва — звітыя гнёзды. Нашто клеткі?

Леанарда купляў птушак разам з клеткамі. Нёс абярэмкам. Птушкі пырхалі, біліся крыламі, сакаталі. Прыносіў на падворак майстэрні. Расстаўляў на каменным насціле і… адчыняў дзверцы клетак. Птушкі выпырхвалі з клетак, кружлялі над майстрам і разляталіся. *«Італія, у скрусе будзь са мной аб тым, што лёс зычлівым стаў да тых, чые пачуцці сёння зніжаны і мова бедная дашчэнту…»* Выцінаўся новы мадрыгал. Не забыцца каб! Перавесці ў пальцы. Лютня запомніць надзейней.

Добраахвотнае пустэльніцтва. «Асізская» аскеза. Дазволеная асалода.

Сонца замаруджвае ход. Даўгія цені парушаюць законы геаметрыі. Птушыны вырай высока. У клетках пуста. У сэрцы адхланне.

## Інтэрферэнцыя гуку

Адкрыць свету новы твор, як расчыніць замкнёныя дзверы. Галлё будзёнасці расхінуць, рассунуць. Падняць заслону. Дазволіць непраяўленаму быць.

Пераняць на свае рукі толькі што народжанае стварэнне, спавіць, пусціць у жыццё…

Быць першым. Здабываць свежы жар таленавітага памкнення і знаходзіць яму зямны прытулак. Месцам прыцягнення рабіць сваю зямлю. Прывілеяй майстра даваць дарогу новаму — узбагачаць абшары і ўпрыгожваць жыццё. Напярэсцігі ўсяму не даць даджам прытрымаць сяўбу. Прамінаць завулкі і набліжаць далячынь. Рызыкаваць і адкрываць. Такім застацца ў гісторыі свайго народа.

Адчайны маэстра Міхал Казінец, нібы птушак з клеткі, выпускае ў свет новыя ідэі існавання аркестра, пераасэнсоўвае эстэтыку канцэртнага і сцэнічнага жыцця. Пазнака ў прафесійным асяроддзі — дырыжор, які не баіцца талентаў.

Патрыярх-аркестр — Нацыянальны акадэмічны народны аркестр імя І. Жыновіча — мае невычэрпны рэсурс: звяртаючыся да мінулага, стварае будучыню. Публіка чуе зварот. Спакушаецца вабным дыялогам. Адноўленае мінулае — яе натхненне. Публіка любіць адчайных. Доўгі шлейф эмацыянальных рэмінісцэнцый — яе падзяка: *«…панёс ён людзям песень дар — агонь душы і сэрца жар, панёс пяснярскай каляінай…» (Якуб Колас).*

Некалі «Вясну свяшчэнную» І. Стравінскага першым рызыкнуў прадырыжыраваць П. Мантэ. Яго ледзь прыкметныя жэсты стварылі ўражанне ігры без дырыжора.

Музыка С. Пракоф'ева выконвалася К. Сараджавым тады, калі творы маладога кампазітара не маглі прынесці ні славы, ні поспеху, ні важкіх ганарараў.

Давід Ойстрах мог бы без намаганняў пражыць сваё артыстычнае жыццё, выконваючы пераважна канцэрты Бетховена, Мендэльсона, Брамса. Але звышпачуццёвая чуйнасць пераменлівасці і хуткаплыннасці жыцця дазволіла Ойстраху гэтае жыццё ўзбагачаць новымі музычнымі адкрыццямі — першае выкананне скрыпічных канцэртаў А. Хачатурана і Б. Дварыёнаса (і многіх іншых) належыць яму. Сёння свет гучыць гэтай музыкай.

Звышкатэгарычны Б. Хайкін, прадчуваючы катастрофу оперы «Повесть о настоящем человеке» (з оперы здзекаваліся самавітыя прафесары-тэарэтыкі задоўга да прэм'ернага канцэртнага выканання: «В учебник гармонии вносится новое правило: неразрешённая малая секунда требует разрешения репертуарной комиссии»), не здрадзіў аўтару і супрацьстаяў агульнаму вердыкту: «Сяргей Сяргеевіч, гэта опера наўдалая і сцэнічнаму ўвасабленню не падлягае…»

У Літве першаадкрывальнікам новай сучаснай айчыннай музыкі быў Б. Дварыёнас — дырыжор, які першым узяў на сябе адказнасць за лёс нацыянальнай музычнай культуры, дырыжор, які ўзяў сабе за абавязак кожную канцэртную праграму аздабляць творам нацыянальнага кампазітара. Сёння ўсе (усе!) літоўскія выканаўцы, на якой бы сцэне свету яны ні апынуліся, выконваюць музыку сваіх кампазітараў. Яе чуе свет. І яна жыве.



Міхал Казінец.

На ніве беларускага музычнага мастацтва ў падобных варунках аказваўся хіба што Міхал Казінец. Нацыянальны акадэмічны народны аркестр імя І. Жыновіча за доўгую і няпростую гісторыю свайго існавання выйшаў на новыя віражы музычнага прыцягнення. Айчынная акадэмічная сцэна набыла новае ўвасабленне маштабных, высокага зместу і рызыкі, нечуваных па размаху творчай думкі і здзяйснення твораў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Танка.

Самаадданасці тут больш, чым належыць быць у звычайным чалавеку. Адказнасці галоўнага дырыжора аркестра — таксама. Неадольнае і вельмі рамантычнае імкненне адкрываць нязведанае, сторч галавою абараняць непраяўленае, невядомае без гарантый на перамогу, на здзяйсненне, на падтрымку, на памагатых. Гэта як карта. Як місія. Найвышэйшае наканаванне. Выбіраеш не ты. Выбіраюць цябе: *«…і ў тых учынках сам нявольны, бо над усім стаіць закон…»*

Так пачынае займацца на дзень…

## Крамяны яблык

Разгоністая хада. У сціснутым кулаку — яблык. І ўзімку, і ўлетку. Крамяны, вілейскі яблык з дзедаўскага саду.

Залатым паскам нястомных світанкаў свецяць родны Анёл. Яго досвіткі нараджаюць птушыны спеў дзённай радасці. Каму медытацыяй — чорныя пацеркі, яму — крамяны яблык колеру вішні. Супраціўленне пругкай яблынавай скуркі вызваляе з-пад сябе сакавітыя кіславатыя пырскі. Мароз сціскае пырскі і ўзмацняе пах. Яблыкі радзімы. Не проста смачныя. З адмысловым водарам лета. Там жыве дзяцінства.

Крамяны яблык — алюзія лёсу Міхала Казінца. Нясхібнасць. Трывушчасць. Надзейнасць. Моц — з сябе. Моц — з зямлі: *« …зямля не зменіць і не здрадзіць, зямля паможа і дарадзіць…»* Магутная знітаванасць са сваёй Вілейшчынай — пераплеценыя карэнні дрэў, пераплеценыя пруты кошыкаў, звітае птушынае гняздо.

Сумленне нам дыктуе намаганне. «Сумленне нам дыктуе намаганне...» — пачатак верша-канцаэты? Усміхаецца. «Грай, дударыку, грай, а ты, муха, выцінай!» — любімы Якуб Колас у галаве. Акцэнты-прысвісты на прадапошнім гуку — пульс, рытм вышэйшага гатунку! «Сумленне нам дыктуе намаганне». Сумленне — бязлітасны наглядчык. Ніхто не асудзіць і не ўхваліць. Не паўшчувае за нядбайнасць, не парадуецца за ўдачу. Няма каму. Ты — самотны Сізіф-мастак.

Разгоністую хаду і рытмічны спеў падхопіць разгоністая хваля незлічоных дзён, вецер невядомага выпхне на шлях, асветлены безлiччу падзей. На разгоністым палатне выпрабаванняў пазначыцца лёс — крамяны, як той вілейскі яблык.

* * *

Публіка на яго канцэртах спявае.

Зачараваная аркестрам, салістамі, публіка не можа стрымаць радасці дачынення да забытага, страчанага характва. «Тут зямля такая», — узгадвае душа.

Незабыўная магія яднання. Зачараваны дырыжор. Зачараваны аркестр. Зачараваная дырыжорская палачка, спыненая ў паветры.

Цёплы, чысцюткі харавы ўнісон, набыўшы тонкую матэрыяльнасць, узнімаецца над залай і, пругка-гнутка выгінаючы сваё лёгкае цела, сягае ў вышыню. Абдымае і ахінае кожнага прысутнага. Спявае ў тое імгненне ўсё. Спявае новае неба, шчабечуць манюкаўскія ластаўкі, гудзяць крывіцкія руны і ліры, сверасцяць лапушыныя свісцёлкі, жалейкі, басуе караткевічаў Выліваха, спявае Дунін-Марцінкевіч з Камілай, Ясінскі з Каліноўскім, падцягвае Цётка, Уладзіслава Францаўна, Ларыса Геніюш, а за імі — Палессе, Прыдзвіння, Наваградчына, Надбужжа…

Цуд спыняе час. Пранікнёнае і зладжанае гучанне «хору глядзельнай залы» абарочваецца дзівам. На зло птушкаедам. Насуперак татальнаму засіллю чужароднага племя газманавых, кабзонаў, кіркоравых.

Людзі завіталі на канцэрт, а на хвіліну сталі народам. Беларуская інтэлігенцыя (бабулі яшчэ па вёсках) прадэманстравала не толькі веданне нацыянальнай паэзіі, але і зайздросную культуру спеваў, чыстых спеўных інтанацый на сваёй (сёння ў статусе элітарнай) мове. Акурат так, як у бабуль на вёсках.

Традыцыя — не толькі звыклае ці даўномінулае. Традыцыя — з'ява ў руху, пераплеценая са светапоглядам. Традыцыя — увасобленая сутнасць ментальнасці — актыўная ў знешніх праяўленнях і схаваная, нераскрыханая ў сваіх глыбінях.

Гэты паўнаплынны ўнісон можа здзівіць усе адукацыйныя і культурныя міністэрствы, якія адчайна, утрапёна, на працягу незлічоных гадоў імкнуцца ўзняць культуру да свайго разумення. Здзівіць і заклапочаных харавым «заняпадам» краіны. Бо што адрадзіце пратакольнае прымусовае выкананне «Летите, голуби, летите!»? Чыё птушаня там так горка плача?

***Горад рыхтуецца да свята. Святочныя ўборы гараджан неўзабаве расквецяць вуліцы і плошчы. Стракатую бруістую шматлюднасць прыцягнуць гукі музыкі. Завершаны твор чакае адкрыцця. Праца скончана, засталіся дэталі. Птушкі гатовы да палёту. Анёлы, каб прыгажосць уславіць незямную, з майстэрні выйшлі, каб пазычыць неба ці на небе пабываць…***

***Плошча ў чаканні аб'яднацца і прыняць цуд. Прэм'ера пленэра. Новае гучанне вызваленай творчай энергіі — «Вянок» Максіма Багдановіча ў музыцы Уладзіміра Мулявіна. Завершаная сучаснасць становіцца гісторыяй, нараджаючы новы сэнс.***

***І можа так здарыцца, што 9 верасня 2017 года на гарадской плошчы сталіцы, у Верхнім горадзе перад Ратушай, з музыкай Уладзіміра Мулявіна і паэзіяй Максіма Багдановіча, з Нацыянальным акадэмічным народным аркестрам імя І. Жыновіча і неверагоднымі салістамі спеўны цуд паўторыцца. Музыка Багдановічавай паэзіі ўзнімецца над старажытным месцам і, хто ведае, магчыма, каму-небудзь пашчасціць убачыць, як над плошчай, музыкай, аркестрам, дырыжорам стане на крыло, убярэцца сілай белае птаства, абдымаючы зямлю пад сабой.***

Ларыса СІМАКОВІЧ

# ШПАЦЫР СКРОЗЬ ГІСТОРЫЮ

**...Можна адчуць сябе мінаком, што падарожнічае скрозь час па вуліцах Мінска, прайсціся шляхамі нашых папярэднікаў, зазірнуць у завулкі, якія больш ніколі не сустрэнеш, убачыць разбураныя ў вайну архітэктурныя аб'екты. Так, крок за крокам, карціна за карцінай, паступова ствараецца партрэт знаёмага нам сучаснага горада.**

Выстаўка-рэтраспектыва «Горад. Архітэктура. Мы», якая адкрылася ў галерэі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, дакладна прадуманая: карціны змешчаны ў храналагічнай паслядоўнасці, за кошт чаго наведвальнікі бачаць гісторыю беларускай сталіцы.

На выстаўцы змешчана каля ста работ (жывапіс, графіка і скульптура), што прадстаўляюць Мінск у некалькіх тэматычных частках. Пачынаецца экспазіцыя з сюжэта, які пачаў і гісторыю беларускай сталіцы, — з карціны «Бітва на Нямізе» мастака Міхаіла Філіповіча. Куратар выстаўкі загадчыца аддзела сучаснага беларускага мастацтва Кацярына Ізафатава заўважыла, што гэта — хрэстаматыйны твор, квінтэсенцыя ўсіх мастацкіх тэндэнцый пачатку XX стагоддзя, часу беларускага адраджэння, калі многія мастакі звярталіся да традыцый беларускага народнага мастацтва, працавалі з фальклорнымі, гістарычнымі, этнаграфічнымі тэмамі. На карціне няма Мінска, але ёсць яго гісторыя — тое, без чаго нельга ўявіць ніводзін горад.

— Мы стварылі візуальнае апавяданне аб горадзе пачынаючы з яго першага згадвання ў летапісе ў 1067 годзе, — распавяла куратар выстаўкі Кацярына Ізафатава. — У асноўным мастакі на выстаўцы «Горад. Архітэктура. Мы» прадстаўлены толькі адной сваёй работай, бо мы хацелі зрабіць экспазіцыю больш разнастайнай. Некалькі работ належаць Анатолю Тычыне, Маю Данцыгу, Анатолю Волкаву, Валянціну Волкаву, Івану Ахрэмчыку.

За «Бітвай на Нямізе» ідзе даваенны Мінск, губернскі горад з адпаведным архітэктурным ландшафтам. Самы галоўны архітэктурны аб'ект на карцінах — Свята-Духаў Кафедральны сабор, які ў розных ракурсах узвышаецца над горадам. Разам з іншымі тут прадстаўлены і работы Язэпа Драздовіча — беларускага мастака, пісьменніка, этнографа і фалькларыста. На выстаўцы змешчана каля 10 яго работ, якія паказваюць даваенны Мінск і Мінск, разбураны вайной. Наступная частка экспазіцыі «Мінск у агні вайны» звяртаецца да трагічных падзей беларускай гісторыі. Малюнкі Анатоля Тычыны, прысвечаныя гэтаму перыяду, адрозніваюцца ад папярэдніх: горад бязлюдны, нібыта застылы паміж быццём і нябытам. Цікавы момант — эскізы да знакамітай карціны Валянціна Волкава «Мінск 3 ліпеня 1944 года», якая дэманструецца ў пастаяннай экспазіцыі музея. Глядач можа ацаніць маштабы падрыхтоўчай працы, заўважыць намаганні мастака перад тым, як стварыць вядомы арыгінал. Радасны, узнёслы стан людзей, якія сустракаюць салдат, ствараe кантраст са змрочнымі выявамі разбуранага горада на малюнках Тычыны.

З эскізаў Валянціна Волкава пачынаецца новы перыяд выстаўкі — 1945 — 1950-я гады, час, калі Мінск адраджаўся да новага жыцця. Архітэктура горада мяняецца, знікае губернская местачковасць, вымалёўваюцца рысы сучаснай сталіцы. «Жыццё ў вялікім горадзе» — узнёслая і паэтычная частка выстаўкі, дзе гарадскія пейзажы паступова пераходзяць у панарамы вялікага горада, якія стваралі натхнёныя новым Мінскам мастакі. Горад не можа існаваць без чалавека: людзі абумоўліваюць яго існаванне, будуюць яго архітэктурнае аблічча. Менавіта таму выстаўку дапоўнілі партрэтамі выбітных дзеячаў культуры, чый лёс непарыўна звязаны з Мінскам. Сярод намаляваных вуліц можна сустрэць выявы заснавальніка першай у Мінску мастацкай школы Якава Кругера, мастачкі Вельгельміны Галубок ды іншых. Пачэснае месца займае партрэт Мая Данцыга, намаляваны яго вучнем гомельскім мастаком Сяргеем Ігнаценкам.

Да ўрачыстага адкрыцця выстаўкі дапасаваная прэзентацыя альбома «Горад. Архітэктура. Мы». У альбоме прадстаўлены каля 400 работ, якія не ўвайшлі ў экспазіцыю, — добрая магчымасць прадоўжыць падарожжа па гісторыі Мінска, які сёлета адзначае 950-годдзе.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**



*Фота з архіва Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.*

*Леанід Шчамялёў. «Як быццам у сне...», 1995 г.*



*Міхаіл Філіповіч. «Бітва на Нямізе», пачатак 1920-х гг.*

## Культурны ракурс



**Нарэшце ў Мінску ўрачыста, з удзелам прадстаўнікоў гарадскога выканаўчага камітэта, міністэрстваў, ведамстваў, урада Беларусі і адміністрацыі Свярдлоўскай вобласці Расіі, адкрылі помнік народнаму артысту СССР заснавальніку ансамбля «Песняры» Уладзіміру Мулявіну.**

**Артыст з вялікай літары, які нарадзіўся ў Расіі, а па светаадчуванні быў беларусам, зрабіў значны ўклад ва ўзбагачэнне беларускай культуры, змог падняць песню на роднай для нас мове да неверагодных вышынь. Неяк давялося пачуць па тэлебачанні, што ў савецкія часы вакальна-інструментальны ансамбль «Песняры» займаў сярод шматлікіх ВІА першую прыступку ў агромністай краіне і знаходзіўся на адным узроўні па папулярнасці сярод суйчыннікаў з брытанскай рок-групай «Бітлз».**

**Скульптурная кампазіцыя, прысвечаная геніяльнаму артысту, упрыгожыла сталічны бульвар Мулявіна. Вобраз выбраны роднымі песняра. У 2014 годзе помнік музыканту быў адкрыты на яго радзіме ў Екацярынбургу. Там жа вырабілі і скульптуру, якая ўпрыгожыла Мінск. Яна стала своеасаблівым падарункам беларускай сталіцы ад расійскага боку. Аўтар помніка — скульптар Аляксандр Каструкоў, які асабіста ведаў Уладзіміра Мулявіна.**

Людміла САЎЧУК

***Да ўвагі чытачоў! «ЛіМ» працягвае конкурс «Культурны ракурс». Умовы творчага спаборніцтва змешчаны ў № 2 нашай газеты. Чакаем цікавых і крэатыўных фотаздымкаў з арыгінальным тлумачэннем.***

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
16 +
Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»
Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by
Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.zviazda.by
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ
Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка
Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова
Нумар падпісаны ў друк
24.08.2017 у 11.00
Ум. друк. арк. 3,72
Наклад — 1531.
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013
Заказ — 2992
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686